PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 40 (2055) ГОД XL БЕЛАСТОК 1 КАСТРЫЧНІКА 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Амфітэатр Калізей у Рыме.*

*Мікола Ваўранюк*

## РЫМСКІЯ ВАКАЦЫІ

Аўтобус спыняецца на паркінгу, нейкія дзве гадзіны дарогі да Рыму. Ужо ў дзвярах б'е ў ноздры неміласэрная гарачыня. Лёгкі вецярок зусім не асвяжае, а здаецца, шпарыць кіпяткам. Пасля мінуты кашуля ліпне да цела, а ў найбольш інтымныя месцы пот сцякае струменьчыкамі. Хутка ўскакваеш назад у аўтобус з кандыцыянерам паветра і пачынаеш шкадаваць, які чорт падкусіў цябе выбірацца ў Італію ў жніўні.

* * *

Канікулы ў жніўні, гэта для італьянцаў святасць. Зачыняюць яны свае бізнесы, бяруць водпускі і колькі духу пруць на мора, балазе абмывае яно Апенінскі паўвостраў амаль з усіх бакоў. Рым у жніўні быў бы камплектнай пустыняй, каб не натоўпы турыстаў — маленькіх японцаў з неадлучнымі фотаапаратамі, рыжых ангельцаў з чырвонымі ад сонца тварамі, шматколерных груп амерыканцаў і гергетлівых немцаў. Некаторыя твары сустракаеш па некалькі разоў у дзень: на Плошчы св. Пятра, каля Калізея, на П'яца Навона, на П'яца дзі Спанья, каля Фантана дзі Трэві, каля Тэрмаў Каракалі ці на Капітоліі.

Знаёмы, які жыве ў Рыме ўжо амаль чвэрць стагоддзя, пацяшае, што гарачыня павінна скончыцца ў другой палове жніўня, пасля feragosto — ящчэ паганскіх жнівеньскіх святаў, якія з часам былі спалучаныя з хрысціянскім Успеннем. „Я заўсёды еду на некалькі дзён у адпачынак пасля гэтага і заўсёды тады лье дождж", — расказвае. А пакуль што, прапануе асвяжыцца півам. Дарэчы, італьянскае піва на здзіў добрае, хаця піць піва ў Італіі лічыцца пэўнай роскашшу, што становіцца зразумелым, калі за вялікую бутэльку (0,66 літра) плаціш столькі, што за літровае віно. Да таго белае віно лёгкае і схаладжанае асвяжае не горш за піва. І дадае бадзёрасці. Можна, праўда, асвяжыцца і вадою, але мінералка ў краме няшмат таннейшая за віно.

Стараюся не зважаць на гарачыню, прыпадабняюся да гэтага смешнага люду з усяго свету, які хоча як найболей пабачыць у гэтым гіганцкім музеі. Калі ходзіш па камянях, з якіх будаваліся неверагодныя аб'екты ўжо больш за дзве тысячы гадоў таму, калі на кожным кроку сустракаеш палацы, якім — глупства — па трыста-чатырыста гадоў, мімаходзь параўноўваеш бачанае з Беларуссю. З нашым зруйнаваным Мірскім замкам, перарobленай да непазнакі полацкай Сафіяй ці напалову знішчанай Каложай. Ужо адно тое, што засталося з Віа Апія Антыка, не кажучы пра Акведук ці Пантэон, кідае на калені. Шкада робіцца нашых суперпатрыётаў, якія з добрымі намерамі заяўляюць аб нашым цэнтральнаеўрапейскім палажэнні і аб нашым укладзе ў сусветную культуру.

* * *

Па-суседску, у былой Югаславіі, вайна. А здаецца, як быццам на іншай планеце. Паказваюць яе ў тэлевізары, пішуць пра яе ў газетах, але ніякага адчування, што ты ў прыфрантавой краіне. У большай ступені італьянцы адчулі некалькі гадоў таму развал камунізму ў Албаніі, калі тамтэйшыя людзі пагрузіліся ў патрэсканыя лодкі і, рызыкуючы жыццём, падаліся на другі бераг Адрыятычнага мора.

Тысячы мусульманскіх уцекачоў з Жэпы ці Срабрэніцы на экране тэлевізара даўно перасталі выклікаць якое-колечы ўражанне. Таксама дзве сотні тысяч сербскіх уцекачоў з Крайны, гэта ананімная маса. Спачуваеш ім, пакуль бачыш на экране, але потым умомант забываешся на іх. Усе даўно звыкліся з тым, што ў Босніі гінуць людзі. Чужая смерць аднак нікога не цікавіць. Дык як жа быць журналістам, якія ўжо чацвёрты год гавораць пра адно і тое ж?

Няшчасце перажывае не бяствараяя маса, а канкрэтны чалавек. Італьянскія журналісты паказваюць гэта ў такі спосаб: знаходзяць раненую 11-гадовую дзяўчынку, якая страціла вока і якую лечаць у турынскай паліклініцы і паказваюць яе, як галоўную вестку, на працягу некалькіх вечароў. На другі дзень тое самае пішуць газеты. Знаёмы кажа: ужо сродкі масавай інфармацыі маюць новага героя, 5-гадовага мусульманскага хлопца, якому міна адарвала нагу. Паказваюць яго на шпітальным калідоры на мыліцах, праводзяць інтэрв'ю з ахвярнымі лекарамі, няшчаснымі бацькамі і г.д. і т.п. Аж знерваваны прэзідэнт рэспублікі Скальфаро публічна заявіў: „Пакіньма гэтых дзяцей у спакоі, яны і так дастаткова церпяць!"

* * *

Практычна штодзень тэлевізія інфармуе пра нейкія злачынствы мафіі. Дзесьці пастаянна гінуць нейкія пракуроры ці карабінеры, якія замоцна наступілі мафіі на мазалі. Увесь час таксама нехта са злачынцаў раскайваецца і хоча сведчыць супроць сваіх „хросных бацькоў".

Аднак на гарачай у жніўні рымскай вуліцы не адчуваецца за спіной подыху мафіі.

*Працяг на стар. 8*

## ЦЭНЗУРА

Не мінула яшчэ шмат часу, калі ў 1990 годзе была ліквідавана цэнзура (Urząd Kontroli Prasy i Widowisk), а ўжо з усіх бакоў адчуваецца насталгія па гэтай установе. Найбольш сумуюць па ёй палітыкі, ураднікі, кардыналы, епіскапы, усялякія дзеячы, а нават (!) некаторыя журналісты, публіцысты і пісьменнікі.

Чаму затым так перашкаджае людзям свабода слова? Інтарэсы некаторых палітыкаў, ураднікаў, дзеячаў як бы зразумелыя. Калі б існавала цэнзура, ніхто не ведаў бы, напрыклад, што ў Познані паліцыя замест бараніць грамадзян ад зладзеяў супрацоўнічае з імі, што некаторыя паслы, сенатары, міністры замест адказваць на пытанні пракурораў прамаўляюць з высокіх трыбунаў, што прэзідэнт купаецца ў ванне за сотні мільёнаў... Калі існавала цэнзура, імідж улады ў сродках масавай інфармацыі быў проста цудоўны, такі цудоўны, што грамадзяне за праўду ўспрымалі толькі тое, што было адваротнасцю афіцыйных вестак, прадстаўленых у прэсе ці тэлебачанні.

Нічога затым дзіўнага, што Сейм у 1994 г. разглядаў „Закон аб дзяржаўнай і службовай таямніцы", які рэзка абмяжоўваў доступ журналістаў да інфармацыі і магчымасці іх публікавання. Большасць паслоў не хацела, каб „люд", які іх выбраў, ведаў, як паводзяць сябе тыя ж эліты. Відаць, рэчаіснае жыццё абраннікаў не з'яўляецца прыкладам грамадзянскай заклапочанасці пра лёс краіны.

Яшчэ цяжэй зразумець усякіх самазваных ураднікаў Бога на зямлі. Калі добра разумею змест Святога Пісання, сэнс іх існавання заключаецца ў прапагандаванні праўды. А як яно ёсць у сапраўднасці, кожны бачыць. Хапае ўключыць тэлевізар, каб пераканацца як дзядзька ва уніформе напачатку заяўляе, што палітыкай не займаецца, а пасля дваццаць хвілін гаворыць пра палітыку. Дарэчы, таталітарнае мысленне ўсялякіх тэлекаментатараў нічым не ўступае ўзроўню мыслення іх калегаў з васьмідзесятых гадоў.

Шум вакол фільма „Ксёндз" ці плаката радыё RMF FM паказваюць, што скончыўся час свабоднай творчасці. Зноў ёсць тэмы, пра якія можна гаварыць і такія, якіх нельга кранаць. У грамадскае жыццё вяртаецца найгоршы гатунак хлусні — крывадушнасць, якая выдатна спрыяе палітычнай дэмаралізацыі. Кантраляванае якой-небудзь цэнзурай грамадства не ў змозе будаваць дэмакратыю і будзе яно заўсёды пераўтварацца толькі ў масу, якая стварае выгадныя ўмовы для кожнай таталітарнай структуры. Камунізм менавіта пакінуў грамадства выхаванае пад цэнзарскім вокам.

Сярод журналістаў, публіцыстаў, мастакоў, рэжысёраў заўсёды будзе шмат асоб гатовых да самаабмежавання, канфармізму, аўтацэнзуры пад патрабавання нейкіх цэнтраў улады. Неабавязкова мусіць гэта быць дзяржаўная ўлада. Некаторыя стваральнікі літаратуры так разгубіліся пасля ліквідацыі цэнзуры, што пачалі пісаць глупствы. Прывыклі бедалагі думаць паводле накінутых зверху схемаў і таму вяртанне цэнзуры ўспрымаюць яны цяпер як нешта нармальнае. Найчасцей служаць ужо іншаму пану, а пісаць па заказу ўмеюць на найвышэйшым узроўні прафесіянальнасці.

Не здзіўляе таксама і тое, што некаторыя беларускія дзеячы дамагаюцца нейкага чыноўніцкага кантролю над тым, што пішам у „Ніве". Папракаюць нас, што замала іх хвалім і не дзякуем за „выдатныя дасягненні ў галіне развіцця нашай культуры". Для некаторых гэта сапраўднае няшчасце, калі журналіст піша тое, што бачыць. Напісаць як справы выглядаюць у сапраўднасці — паводле іх — абазначае варожа паставіцца да людзей, якія за імі стаяць. Забываюцца аднак, што называць сіняе зялёным, а зялёнае жоўтым — гэта нішто іншае як абман чытача. Можна паказваць, як у нас усё добра, якія мы прыгожыя, але на ілюзіях ніхто яшчэ не пабудаваў нармальнага грамадства. Найгоршая праўда ў канцы канцоў аказваецца лепшай ад найпрыгажэйшай хлусні.

**Яўген Мірановіч**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*— W czym należy upatrywać źródeł polskiego antysemityzmu?*

*— Odpowiedzi są banalne. W katolickim kraju antysemityzm jest możliwy. Żyło tu bardzo wielu Żydów, którzy mieli swoją autonomię, religię i własne wzorce. Przed wojną Żydzi brali udział w życiu politycznym, tworzyli redakcje 1 500 tytułów prasowych. W żydowskim teatrze występowało przed wojną 350 aktorów. W ramach tournee nieustannie jeździło po kraju 16—20 zespołów teatralnych. Arnold Szyfman, Ida Kamińska, Aleksander Ford, Artur Rubinstein, Jerzy Petersburski, Henryk Wars, Artur Sandauer, Tuwim, Słonimski, Hemar, Leśmian byli Żydami, którzy tworzyli kulturę polską. Przedwojenne ani powojenne podręczniki w ogóle nie informowały o żydowskich korzeniach Lechonia, Jasieńskiego, Brunona Schulza.*

*Wyparcie z kultury polskiej żywiołu żydowskiego spowodowało, iż staliśmy się kulturowym zaściankiem Europy.*

*Wprost, nr 37*

Цяжка сабе ўявіць, што будзе дзеялася, калі ў падручніках па літаратуры напішуць праўду пра Адама Міцкевіча і яго беларуска-яўрэйскія карані. Сотні патрыётаў такую вестку могуць адрэагаваць самагубствам.

* * *

*На Беларусі групоўка бальшавіцкіх адстаўнікоў-інтэрнацыяналістаў і ненавіснікаў усяго беларускага, парвала беларускі гістарычны бел-чырвона-белы сцяг.*

*Беларускі Дайджэст (ЗША), н-р 8*

Як беларус, які жыве за межамі Бацькаўшчыны, можа ўспрымаць такія весткі? Які вобраз Беларусі ўзнікае ў іх свядомасці?

* * *

*Wojska ONZ znalazły w Krajinie ciała serbskich cywilów zamordowanych przez nieznanych sprawców, — poinformował rzecznik sił ONZ w Chorwacji. Chorwaci odbili Krajinę w sierpniu, a wszyscy jej mieszkańcy uciekli do Serbii. W okolicach Knina znajdują się zbiorowe groby. 85 proc. domów serbskich zostało spalonych, a cerkwie zbeszczeszczone.*

*Gazeta Wyborcza, nr 207*

А ўсё гэта паводле „Gazety" зрабілі „nieznani sprawcy".

* * *

*1 maja oddziały chorwackiej armii wkroczyły do płonącego Jasenovac, miasta w Zachodniej Slavonii. Tutaj w czasie II wojny w jednym z najstraszniejszych obozów zagłady Chorwaci wymordowali setki tysięcy Serbów. W Jasenovac, Starej Gradišce, Pakrac Chorwaci dokonują masowych rozstrzeliwań ludności cywilnej. Tylko w okolicy wsi Donja Waron zamordowali półtora tysiąca Serbów. Chorwaci nie dopuszczali na zdobyte tereny żadnych obserwatorów. Palili ciała ofiar, usuwali ślady krwi, a specjalni zwiadowcy wyłapywali ukrywających się w lasach cywilów. Tereny, na których na początku wieku zamieszkiwało około pół miliona Serbów, są „czyste etnicznie". (200 tys. zostało zamordowanych w czasie II wojny światowej w Jasenovac.) Powstanie tu „wielka Chorwacja".*

*Świat zachodni z aprobatą i satysfakcją obserwuje dopełnianie ludobójstwa rozpoczętego w 1941 r. Franjo Tudjman prezydent Chorwacji w jawny sposób nawiązujący do faszystowskich tradycji ustaszów, wie, że jego armia szkolona przez amerykańskich generałów gotowa jest do kolejnej agresji, tym razem w Krajinie. Na początku sierpnia scenariusz z Zachodniej Slavonii zostaje powtórzony w Krajinie. Tym razem wobec ponad 200 tysięcy Serbów. Zbrodni Chorwatów nie da się już jednak ukryć. Nawet w telewizji polskiej ukazują się na ten temat krótkie informacje. Zaś czołowy komentator wojny w „Gazecie Wyborczej" Dawid Warszawski, porównywał w tym czasie Serbów do hitlerowskich Niemców. „Gazeta Wyborcza" zamieściła obszerny tekst, w którym Dawid Warszawski udowadniał, że „sama kampania w Krajinie nie była zbrodnicza", „czyszczenie etniczne Krajiny dokonało się na rozkaz władz serbskich, które zarządziły ewakuację ludności".*

*Przegląd Prawosławny, nr 9*

Меркаванні спадара Давіда чалавечым розумам нельга ахапіць. Што іншага Туджман — працягвае ён толькі тое, што пачаў яго вялікі настаўнік Антэ Павеліч — кат сербаў і яўрэяў.

* * *

*Rapowe piosenki to znak narastającego konfliktu, dużo poważniejszego niż tradycyjny konflikt pokoleń. Odrzuceni przez ślepą rękę rynku, zapomniani przez polityków, młodzi ludzie odnajdują wspólny świat. Agresywny, wulgarny, sławiący przemoc i destrukcję.*

*Mam chore myśli, chore pragnienia,*
*niezdrowe pomysły, chory stan uzębienia.*
*Mam krosty na dupie, a policje pie.....ę.*
*Wiedzą o tym dzieci w każdej polskiej*
*szkole...*
*A w Polsce nie ma sprawy, wolność słowa*
*przecież mamy.*
*Gówno prawda, ty zawszony ch...u,*
*Wolność to my mamy, jak nam ją narysują.*
*Wciąż zakazy, nakazy, przykazania*
*moralne,*
*Nie wolno mówić głośno i dosadnie o seksie*
*O Kościele i wielu jeszcze,*

— спявае калектыў „Liroy" з Кельцаў.

*Gazeta Wyborcza, nr 208*

* * *

*Jeszcze niedawno Mińsk wyglądał jak rasowe sowieckie miasto pod białoruską okupacją. Zewsząd było słychać mowę rosyjską, a zewnętrzny wystrój stolicy republiki w postaci wywieszek, szyldów, tablic był białoruski. Obecnie wszystko wróciło do normy. Biało-czerwono-białe flagi zdjęto z masztów, a każdy, kto pamięta, że Białoruś była niepodległym państwem musi liczyć się z konsekwencjami.*

*Milicjanci odpruli już ze swych czapek „Pogoń" i jak za dawnych sowieckich czasów, szykują się do karania za jej noszenie. Do herbu tego ludzie Łukaszenki odnoszą się bowiem z wyjątkową nienawiścią. Wszystkie nowe paszporty wydane po 1992 r. z „Pogonią" na okładce zostały unieważnione. Nie upoważniają one do wyjazdu za granicę. Mogą to uczynić tylko ci, którzy nie spieszą się po nowe, zachowali stare sowieckie paszporty z sierpem i młotem.*

*Najwyższy Czas, nr 174*

Гэтыя сімвалы прынамсі ведаюць ува ўсім свеце.

## З мінулага тыдня

**Праваслаўны камітэт дапамогі ахвярам вайны ў былой Югаславіі**, якому благаславіў мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Васілій, паўстаў у Беластоку з мэтай правесці збор грошай, лякарстваў, гігіенічных сродкаў, харчоў, пледаў і спальных мяшкоў для сербаў з Крайны, якія былі прымушаны пакінуць свае дамы і ўцякаць у Сербію і Чарнагорыю. Гуманітарная дапамога будзе перададзена Сербскай Праваслаўнай царкве ў Бялградзе. **Грошы можна пералічваць на рахунак: PKO BP II Oddział Białystok nr 5526-90463-132 з прыпіскай „Сербія".** Рэчавыя дары можна перадаваць праваслаўным прыходам на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства. За дэталёвымі інфармацыямі звяртацца трэба па адрасу: Беласток, вул. Ліпова 15/2А, тэл. 44-55-11.

**Прэм'ер-міністры Польшчы і Літвы — Юзэф Алексы і Адольфас Шляжавічус** — падпісалі ў Вільні пагадненне аб трансгранічным супрацоўніцтве паміж абедзвюма краінамі. Дазволіць яно рэгіянальным і мясцовым уладам у прыгранічнай паласе ствараць супольныя прадпрыемствы, фонды, акцыянерныя таварыствы.

На прэс-канферэнцыі ў перапынку 279 Канферэнцыі Епіскапату Польшчы, якая праходзіла ў Віграх каля Сувалкаў, генеральны сакаратар Епіскапату біскуп **Тадэуш Перонэк** адносся да пытання **Супрасльскага манастыра**. „Калі справа настолькі наспее, што трэба будзе выявіць пазіцыю, то гэтым зоймецца Канферэнцыя Епіскапату", — сцвердзіў ён.

**Некалькі соцень цыганоў** прымала ўдзел у пілігрымцы з Ласасіны-Гурнай у Ліманову. У лісце да паломнікаў біскуп **Юзэф Жыцінскі** з Тарнава папрасіў у цыганоў прабачэння за праявы агрэсіі ў адносінах да іх у Польшчы. „Перапрашаю вас за ўсялякія праявы агрэсіі, несправядлівасці, прымітыўнай, бяздумнай, — пішацца ў лісце. — Веру, што не зноўваўцца тады і не хочаце адплачваць агрэсіяй за агрэсію".

**У Саколцы**, па закліку каталікаў з горада Скідаль Гродзенскай вобласці, стварыўся камітэт па справах пабудовы касцёла ў гэтым горадзе.

**Помнік салдатам Арміі Краёвай** адкрыты быў 17 верасня ў Беластоку ў гонар акаўцаў беластоцкай, віленскай і навагрудскай акруг. Ва ўрачыстасцях прымалі ўдзел ветэраны з Літвы і Беларусі.

**У Гарадку** адбылося чарговае пасяджэнне **Уніі гмін „Прагрэс XXI"**, якую складаюць дванаццаць гмін Беласточчыны. Тэмай сустрэчы, у якой удзельнічалі генеральны консул РБ у Беластоку **Міхаіл Слямнёў**, віцэ-ваявода **Гжэгаж Рыкоўскі**, прадстаўнікі Рэспублікі Беларусь, а таксама пагранічных і мытных служб, было прыгранічнае супрацоўніцтва ў галіне турыстыкі, культуры і гаспадаркі. Войты гмін звярталі ўвагу на адсутнасць гаспадарчых кантактаў з Беларуссю на самаўрадавым узроўні, а супрацоўніцтва, якое развіваецца на гэтым полі, гэта перш за ўсё вынік асабістых кантактаў. Беларускі бок падтрымаў неабходнасць наладжання гаспадарчага супрацоўніцтва на ўзроўні гмін і раёнаў, а генеральны консул праінфамаваў, што выслаў у Міністэрства замежных спраў Беларусі пісьмо з просьбай адкрыць некалькі дадатковых гранічных пераходаў для патрэб мясцовага насельніцтва.

**У экалагічную акцыю „Прыбіранне свету"** ўключылася на Беласточчыне больш за 10 тысяч чалавек, галоўным чынам вучняў падставовых і сярэдніх школ. Адмоўнай з'явай гэтага практычнага ўрока экалогіі была абыякавасць дарослых да гэтай акцыі.

**У Гайнаўцы** паліцыя затрымала злачынцаў, якія ўзламаліся ў дзіцячы садзік. Аказалася, што гэты крымінальны ўчынак здзейснілі тры дзевяцігадовыя дзяўчынкі. У гэтым жа горадзе ў рукі ахоўнікаў правапарадку папаліся таксама два юнакі, якія ўчынілі нахабную крадзеж.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Успаміны Віктара Ярмалковіча.
- Адказ Юркі Трачука гданьскім беларусам і ўкраінцам.
- Заўвагі Васіля Петручука пра выбарчую кампанію.
- Разважанні Сакрата Яновіча пра сітуацыю беларускай культуры.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Крэдыт стэнд-бай

Кіраўніцтва Міжнароднага валютнага фонду ў Вашынгтоне прыняло рашэнне выдзеліць Рэспубліцы Беларусь крэдыт стэнд-бай. Сума крэдыту — 300 мільёнаў долараў ЗША — будзе выдавацца пяццю траншамі. Першая транша паступае ў краіну як правіла на працягу трох—чатырох дзён пасля прыняцця адпаведнага рашэння.

### Адстаўка банкіра

Прэзідэнт РБ А. Лукашэнка падпісаў указ н-р 373 аб вызваленні ад пасады старшыні праўлення Нацыянальнага банка РБ Станіслава Багданкевіча (вядома, па ўласным жаданні). Выконваючым абавязкі галоўнага банкіра рэспублікі прэзідэнт назначыў Мікалая Кузміча.

### Пікетаванне прадстаўніцтва ААН

Партыя „Рух за сацыяльны прагрэс і справядлівасць" распаўсюдзіла заяву аб пачатку бестэрміновага пікетавання прадстаўніцтва ААН у Беларусі. Пікетаванне будзе працягвацца да спынення бамбардзіровак самалётамі краін НАТО тэрыторыі былой Югаславіі. Арганізатары гэтай акцыі чакаюць ад беларускага ўрада дакладнага і недвухсэнсоўнага асуджэння міжнароднага разбою на югаслаўскай зямлі і адмены рашэння аб далучэнні Беларусі да праграмы НАТО „Партнёрства дзеля міру".

### Лукашэнка супраць НАТО

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка выказаўся супраць пашырэння блока НАТО на ўсход і за ўзмацненне адзінства былых савецкіх рэспублік у рамках СНД. На яго думку, у апошні час НАТО і тыя, хто дырыжыруе працэсамі на Балканах з-за акіяна, умешваюцца ў еўрапейскія пытанні. Адначасова прэзідэнт РБ выказаўся за развіццё супрацоўніцтва ў рамках СНД. Цяперашняя сітуацыя можа прывесці да таго — мяркуе Лукашэнка — што рэспублікі былога СССР апынуцца на задворках цывілізацыі.

### Адноўлена знішчэнне ўзбраення

Беларусь прыняла пастанову аднавіць знішчэнне звычайных відаў узбраення ў рамках дагавора аб звычайных узброеных сілах у Еўропе. Прадстаўнік МЗС заявіў, што ў бліжэйшы час кіраўніцтва рэспублікі афіцыйна назаве дату пачатку аднаўлення работы. Дыпламат нагадаў, што рашэнне аб прыпыненні Беларуссю ліквідацыі ваеннай тэхнікі было прынята А. Лукашэнкам у лютым 1995 г. выключна па эканамічных прычынах.

### Паднебны інцыдэнт

Дзяржэпартамент ЗША заклікаў беларускія ўлады да правядзення поўнага і дакладанага расследавання інцыдэнту з 12 верасня ў небе над Беларуссю. У распаўсюджанай у Менску праз пасольства ЗША заяве адзначаецца, што амерыканцы лічаць непрымальным тое спазненне, з якім ЗША былі паведамлены аб здарэнні. Афіцыйны прадстаўнік Дзяржэпартамента Нікалас Бернс, спасылаючыся на даныя швейцарскага аэраклуба, які праводзіў спартыўныя спаборніцтвы на паветраных шарах, паведаміў, што загінуўшыя аэранаўты мелі ўсе неабходныя дакументы для перасячэння беларускай паветранай прасторы.

### Выбарчы блок

Напярэдадні паўторных парламенцкіх выбараў, якія павінны адбыцца ў канцы лістапада, у Менску зарэгістраваны першы выбарчы блок „Сацыял-дэмакратычны саюз". У яго ўвайшлі тры партыі: Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, Партыя народнай згоды і Партыя ўсебеларускага адзінства і згоды.

### Транспартнае супрацоўніцтва

Міністры транспарту трох дзяржаў: Польшчы, Украіны і Беларусі сустрэліся ў польскім горадзе Влодава над Бугам. У ходзе спаткання былі абмеркаваны актуальныя праблемы транспарту, што існуюць паміж гэтымі краінамі. Кіраўнікі ведамстваў наведалі плаціну, аўтамабільны і чыгуначны мост цераз Буг і разгледзелі транспартныя праблемы з прадстаўнікамі рэгіянальных улад у Польшчы.

### Сезон з новым балетам

У Дзяржаўным акадэмічным тэатры оперы і балета Беларусі адкрыўся новы тэатральны сезон. Замест традыцыйнага „Лебядзінага возера" Чайкоўскага на гэты раз на сталічнай сцэне паказаны новы нацыянальны балет Андрэя Мдзівані „Страсці альбо Рагнеда". Прэм'ера яго адбылася ў канцы мінулага сезона і мела вялікі поспех.

### Археалагічныя адкрыцці

У наваколлі вёскі Снядзінь Петрыкаўскага раёна аб'яднаная беларуска-амерыканская экспедыцыя пры раскопках знайшла загадкавы лясны курган. Пасля яго даследавання археолагі дайшлі да высновы, што лясныя курганы — гэта магільнікі славянскіх плямёнаў XI—XII стагоддзяў. А ва ўрочышчы Дварышча знойдзены сляды культуры славян V—VII стагоддзяў нашай эры.

 

# ГРОШЫ І МЕДЫЦЫНА

Амбулаторыю пры скрыжаванні вуліц Ягелонскай і Казімежоўскай у Бельску-Падляшскім пачалі будаваць у 1988 годзе. Пабудова зацягнулася з прычыны фінансавых цяжкасцей. Летась працы пайшлі скарэй, бо ваяводства дало грошы і ў справу заканчэння інвестыцыі моцна заангажаваліся тры гміны: горад і гміна Бельск ды Орля.

— Гэтыя гміны пакрылі палову бракуючых сродкаў, — кажа дырэктар Комплексу аховы здароўя (Zespołu Opieki Zdrowotnej) у Бельску-Падляшскім доктар Аляксандр Мадзалеўскі, — і ў выніку, улетку мы маглі пачаць засяляць будынак. На новым месцы працуе ўжо дзіцячая амбулаторыя, неўзабаве адкрыем кабінеты для прыгарадскіх раёнаў, для ветэранаў і інвалідаў. Яшчэ ў гэтым годзе пачнуць працу амбулаторыя для хворых на дыябет, неўралагічная і акулістычная. Па меры магчымасцяў, г.зн. калі будуць грошы, будзем адкрываць гінекалагічную амбулаторыю, тры стаматалагічныя кабінеты, пратэтычную майстэрню і лабараторыю.

Беласценны двухпавярховы, з чырвоным дахам, будынак амбулаторыі — прасторны і светлы. Мае некалькі выгадных уваходаў, у тым ліку і пад'езд для калясак.

— Напачатку запланаваны быў ліфт для інвалідаў, — расказвае, праводзячы па амбулаторыі, яе кіраўнік доктар Хрысціна Пісанка, — але падчас пабудовы трэба было праект дапасоўваць да існуючых сродкаў і ад сяго-таго адмаўляцца. На другі паверх будзе можна ўехаць па спецыяльнай платформе, падвешанай да парэнчы, якая будзе апускацца на лесвіцу. А вось тут прыбіральня для інвалідаў, з шырэйшымі дзвярыма, каб свабодна прайшла каляска, з адпаведным абсталяваннем.

Са сцен у дзіцячай частцы смяюцца каляровыя героі казак: зайчыкі, ружовыя цмокі, Астэрыкс, Флінстаны, Ёгі. Няма шэрых насценных газетак, якімі так любіць палохаць ахова здароўя: „мый рукі перад ядой, бо...” і тут наступае пералік усялякіх няшчасцяў, пачынаючы са звычайнага паносу, канчаючы халерай ці нейкай іншай чумой.

— Карціны намалявалі дзеці ў садку, — кажа доктар Пісанка, — а мы толькі аправілі ў рамкі і зашклілі. Вось і ўвесь сакрэт.

Галоўны цяпер клопат — дастаць грошы на абсталяванне кабінетаў.

— Мы на гэта атрымалі мільярд старых злотаў, — кажа доктар Мадзалеўскі, — не хапае, на сённяшнія цэны, — так чатырох мільярдаў з нечым. Калі ўлічыць, што надыходзіць зіма і зноў трэба выкаштавацца на вугаль ды рост, у страшэнным тэмпе, цэн лекаў, то сума, патрэбная на тое, каб гэты аб'ект запусціць у поўны ход, будзе напэўна яшчэ большая.

Бельскі ZOZ задоўжаны за адны даплаты да лекаў на 4,6 мільярда злотаў, —за апал — наступныя 3 мільярды. Задоўжанасць ваявода мусіць пагасіць, як гэта робіць штогоду. Інакш проста ахова здароўя не змагла б функцыяніраваць. А яшчэ патрэбныя рамонты існуючых аб'ектаў. У 34-гадовым бельскім шпіталі рамонт даху ідзе практычна бесперапынна. Адрамантаваныя ўжо — зменены падлогі, пакладзены новыя тынкі на сценах, новае абсталяванне ў залах — тэрапеўтычны і дзіцячы аддзелы, цяпер вядуцца работы на гінекалогіі-акушэрстве. Тут будзе найбольш змен, бо трэба падрыхтаваць такія ўмовы, каб маці маглі прабываць увесь час разам з нованароджаным дзіцём.

— У часткова вызваленую амбулаторыю на вуліцы Міцкевіча плануем перанесці хуткую дапамогу, — расказвае аб намерах дырэктар бельскай аховы здароўя. — Я ўжо напісаў у гэтай справе пісьмо ў Ваяводскую станцыю хуткай дапамогі і цяпер чакаем адказу. Гэта было б карыснае і нам, бо звольненыя памяшканні направілі б сітуацыю шпіталя, і выгадна бяльшчанам, бо атрымалі б адкрытую круглыя суткі лякарню ў цэнтры горада.



Яшчэ пару гадамі назад у Бельску было тугавата з лекарамі-спецыялістамі, але сёння ёсць іх столькі, колькі трэба. А нават некаторыя стаматалогі, калі не адчыняць прыватных кабінетаў, будуць беспрацоўнымі. Усе вясковыя асяродкі здароўя ў былым Бельскім павеце, г.зн. у гмінах: Боцькі, Вышкі, Орля, Рудка (падпарадкаваныя бельскаму ZOZ) таксама абсаджаныя персаналам.

— Кадры ў нас добрыя, — кажа доктар Аляксандр Мадзалеўскі, — горш з апаратурай, якая пачынае сыпацца. Шпітальным рэнтгенам, напрыклад, больш чым па дваццаць гадоў, увесь час нешта ў іх псуецца. Цяпер папсаваўся нам апарат для стэрылізацыі. Ёсць і прыгожыя жэсты, як напрыклад Вялікага аркестра святочнай дапамогі Оўсяка, які падараваў бельскаму шпіталю апарат для маніторынгу плода. Потым з Міністэрства здароўя атрымалі мы яшчэ тры, але жэст лічыцца.

У новай амбулаторыі таксама ёсць дабрачынцы, якія дапамагаюць у яе абсталяванні. Гэта найчасцей прыватныя бельскія прадпрымальнікі, уласнікі крамаў, аптовых складаў. Адміністрацыя шчыра ўсім дзякуе, прозвішчы памяшчае на спецыяльным стэндзе, на сцяне ніжняга хола.

Комплекс аховы здароўя ў Бельску-Падляшскім мае пад сваёй апекай 65,5 тысяч чалавек. Яго дырэктар, доктар Аляксандр Мадзалеўскі на пытанне, чаго жадаў бы, каб палепшыць працу падначаленых сабе службаў, адказвае:

— Трох рэчаў: па-першае грошай, па-другое грошай і па-трэцяе грошай.

**Мікола Ваўранюк**
**Фота аўтара**

# Тры вёскі, тры палоскі...

*(быль)*

Тры вёскі на ўскраіне пушчы. І не пушча яна тут, а рэдзенькі лясок з перасохлым ягаднікам, і тыя вёскі — сялібы ў пару хатак, ды і то ў большасці паўпустых, з адной-аднюсенькай цёткай ці дзядзькам і іхнім сціплым дабыткам. А наўкол — густы сасновы маладняк, які ўлез на нядаўна парослыя нізенькім жытам і пацярэбленым „стонкай” бульбоўнікам палеткі; вядома — шосты клас якраз пад хваіну. Летам яшчэ ўнучкі ды праўнукі маюць рай — масляк высыпаюцца як град пасля летняга цёплага дажджу, але і грыбы ў вачах сохнуць, точыць іх чарвяк на рэшата, не даючы дарасці нават да дзвюх цаляў. З суседняй Зяўроўкі налятае на лясок хмара раз'ятраных грыбнікоў, узброеных амаль што не ў косы, дзяруць-грабуць ігліцу як бульдозеры ў пошуках лісічак і баравікоў, з імпэтам вартым большай справы збіваючы мухаморы (і той мухамор як не той мухамор — куды ж падзеліся крамяныя прыгажуны ў вялікіх сочна-чырвоных капелюшах у снежна-белыя крапіны?..).

Баба Галенка яшчэ нядаўна насіла на „пункт скупкі” зёлак то траўкі ды кару крушыны, то па кашолачцы лісічак, па кубачку чарніц „прывацяжам”, каб свежы грош быў унучцы, а цяпер сабе ледзве на зіму насушыць. Дый *апецітт* не той, кажа бабуля, не цягне так ужо на ягадку ці на солены баравічок! Смак не такі, як калісь, чалавеку ж пад дзевяноста! І сапраўды, не так ужо цікава жывецца, як калісь, хоць і клопату менш, ано са здароўем... Нават папляткаваць няма з кім і пра што, бо са сваімі суседкамі ўжо перамылі костачкі ўсіх жывых і пакойнікаў. Каб хоць якія маладыя былі... Пра гэтых пару маладых, што ў ваколіцы, цяжка сказаць, у якім яны ўзросце: паабрасталі як ваўкі, з *ганучы* не вылазяць, з п'янкі не прасыпаюцца! Галенчына суседка, Каця, мае трох такіх ганавічнікаў у хаце. Можа, калі б яны дзяўчатамі былі, пайшлі б у людзі. Каціна дачка ў Беластоку ў прадшколлі вучыць дзяцей, кавалера мае мястовага, да таго ж маладзейшага ад сябе на сем гадоў. І вучыцца хацела, і вось з Юркам выбіраецца за мяжу. З хаты нічога не прасіла, што ж, дацягнула так да трыццаці дзевяці гадоў, але хоць свет пабачыла. А гэтыя *махамэты*... Колік хоць у арміі быў у Варшаве, траха абцёрся ў свеце (праўда, там у войску піць навучыўся, і такі нейкі жорсткі зрабіўся да бацькоў, нянавісны, быццам па іх віне жыццё яму не склалася). Адася і Косцю выкінулі з „завадовак”, вучыцца ніяк не хацелі. Косціка бацькі ад малога меркавалі пакінуць на гаспадарцы, вельмі ж цягнуўся да жывіны, да машын... Тады ў Валянцеяў былі конная жняярка і сеўнік. Цяпер вось трактар ёсць, снапавязалка, бульбакапалка, плугі. Хлопцы людзям усё паробяць, пасля сабе аруць, сеюць, збіраюць... Як на работу налягуць, то няма чаго на іх наракаць. Але ж для каго ўсё гэта астанецца! Адасю ўжо сорак пяць, Косцю — сорак два. Каця ў той век ужо бабуляй была, найстарэйшая дачка, Крысця, унучачку ёй тады нарадзіла. І вось цяпер, гляньце, меўшы пяцёра дзяцей, Каця тую адну ўнучку і мае. А магла б жа ж і прабабкай быць!

Каця з Федзем (ва ўдовах яна ходзіць дваццаць ужо гадоў з гакам) надта ж зямлю любілі ды паважалі. Бо што ў чалавека больш добрага ды вечнага, што яму дадзена ва ўладанне на той зямлі — як не тая зямелька? Бо гэта ж не хата, нават не дзеці, а яна, вечная, што дасталася ім ад бацькоў. З каменнем, пяском, што ад стварэння свету на ёй ляжаць. Карані з яе прадзед павыдзіраў, кожную пядзю потам абліў...

Пабіта была раней тая зямля на вузкія палоскі, падзелена паміж сваякамі-суседзямі, параскіданы ўчасткі былі па ўсёй аколіцы. Каця з Федзем мелі наддаткі нават ля ўрочышча Зазулін Кут. Усюды гані каня, закідай рубель на абы дзве капіцы сена. Больш клопату, чым прыбытку. Калі чвэрць веку таму пачалася *камасацыя*, перасварыла яна ўвесь народ. Нават не ведалі, што ў людзях аж столькі злосці сядзіць! Павылазілі з забыцця старыя беды і жалі, нават здавайны і бежанства, нейкія крыўды-болі стрыечных прадзедаў, смерць сабакі, украдзеная дваюраднаму дзеду нарачоная... Сваркі і камісіі цягнуліся гадоў за дзесяць. Адзін аднаму то прыворваў мяжу, іншы зноў улазіў на свой дагледжаны чарназёмны кавалачак, то чакаў ля каменя на раздарожжы, каб палічыцца без слоў, але красамоўна. Галенчынаму Сцяпану Міхалко Саладыха са сваім шваграм Пянтохам Зарэчным пад крамай Зюні Бязносіка жывот распаролі на плоце, не лепшы раней быў, дарэчы, і Сцяпан — Міхалку штыкецінай так урэзаў, што ржавым цвіком разадраў шыю ля аорты, *чуць* той дух не аддаў. І, *устыд* сёння прызнацца старэчам, Манька Максімча, не гаварыўшы са Сцепаніхай гады чатыры, так красамоўна выказвалася на тэму сваіх да яе адосін: пасярэдзіне вулачкі задзерла сваю спадніцу ды выпнулася ў яе бок голым азадкам. У адказ і Галенка бліснула ёй сваёю касцістай дупкай у байкавых доўгіх майтках з матузамі. Так і стаялі бабы пасярод дарогі ў заходнім сонцы, сракамі да сябе, зацятымі тварамі ўглядаючыся ў супрацьлеглыя канцы вёскі. І дзецям сваім забаранілі былі размаўляць, але, вядома што для маладых непалады бацькоў, і тым больш тая зямля, за якую старыя так грызуцца! Пайшлі дзеці ў свет, іншага шчасця шукаць.

А яны, старыя? Каму на пенсію, каму ў магілку. А зямлі той — *да панства*. А ў таго *панства* яе досыць. Калі ў яго няма мукі на хлеб, прывязе яе з-за мяжы!

У крамку дзядзькі Зюні свежы хлеб прывозяць штодзень аж з Беластока.

**Міра Лукша**

## У Гайнаўцы

### Музей прымае гасцей

Мабыць, не ўсе ведаюць, што ўжо цяпер можна карыстацца начлежнымі месцамі ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы. Можа тут пераначаваць 40 чалавек, гэта значыць, напрыклад, усе ўдзельнікі аўтобуснай экскурсіі. Цэны самыя нізкія — два з паловай разы танней чымсьці ў ПТТКоўскай гасцініцы, якая знаходзіцца амаль побач, па вул. Парковай.

Я ў час журналісцкіх вандровак начаваў у музеі дык ведаю, што тут прыемна, выгадна і танна. Да таго ўсё навюсенькае, чыстае. Важна і тое, што музей і начлежныя пакойчыкі ў ім знаходзяцца ў самым цэнтры горада. Побач пошта, банкі, усялякія крамы. Недалёка адсюль на чыгуначны і аўтобусны вакзалы. Ля музея ёсць базар, на якім поўна замежных прадаўцоў, у тым ліку перш за ўсё з-за ўсходняй граніцы. Многае можна тут купіць за невялікія грошы.

Усіх з далёкай і блізкай дарогі запрашаем на начлег у музей, па вул. 3 Мая. Не пашкадуеце. Там будзеце адчуваць сябе як дома...

### Дом культуры запрашае...

Пасля канікулаў Дом культуры па вуліцы Беластоцкай 2 у Гайнаўцы (ГДК) запрашае на заняткі ў гуртках зацікаўленняў і на розныя курсы. У верасні гэтага года пачынае працаваць між іншым дзіцячы калектыў песні і народнага танца, музычны тэатр ды вакальная дзявочая група. Тут можна будзе займацца і ў пластычным гуртку, навучыцца танцаваць ды іграць на класічнай гітары. ГДК запрашае ўсіх ахвотных удзельнічаць таксама ў занятках на курсах англійскай і нямецкай моў.

15 кастрычніка ў ГДК будзе адкрыта выстаўка лепшых здымкаў мясцовых фотааматараў і лепшых работ самадзейных разбяроў па дрэву, а таксама ручной вышыўкі.

**(ця)**



 

*Сакрат Яновіч*

# Канец манаполіі на нацыянальнае

Дзіўна складваецца неяк так, што — ад некаторага часу — дзень сваіх нарадзінаў я праводжу ў Рэспубліцы Беларусь. У мінулым годзе — на свяце беларускай пісьмовасці ў Полацку, дзе ў тутэйшым замурзаным гатэлі сустрэў сваё 59-годдзе ў добрым таварыстве Яна Чыквіна, Яўгена Мірановіча, Валодзі Паца (падарылі мне тады для аптымізму эратычны часопіс *Playboy*). Цяпер жа не было з кім; маім польскім спадарожнікам пад семдзесят ужо і не ў галаве ім маладзецкія жарты.

На нядаўні ІІ-гі Кангрэс Беларускага ПЭН-цэнтра вылецеў першы раз беларускім самалётам авіяліні *Белавія*, проста з Варшавы ў Мінск, а не як раней абавязкова ў сталіцу СССР Маскву, адкуль трэба было дабірацца потым у Беларусь цягніком усю ноч. Што ж: незалежнай дзяржаве незалежная камунікацыя са светам (лайнеры *Белавіі* далятаюць, таксама, у важнейшыя метраполіі Захаду і ў вялікія гарады Паўночнае Амерыкі). З асаблівай прыемнасцю пачуў я беларускую мову ў інфармацыйных рэпрадуктарах на борце „ТУ 134", з паслейшым паўторам па-ангельску. Хоць пасажырская публіка наогул рускамоўная.

Пытанне мовы ўзнікне неўзабаве ў час таго Кангрэсу: маскоўска-пецярбургская дэлегацыя будзе дамагацца і расейскага перакладу чутых у фатэльных слухаўках выступленняў, якія гучалі пераважна на беларускай мове, іншы раз з моцным іншаземным акцэнтам у немцаў, чэшкі, балгаркі, ангельцаў, палякаў. Своеасаблівая падкрэсленасць беларушчыны бралася, як прадчуваю, з таго, што Кангрэс быў прысвечаны абароне свабоды слова і друку беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь (ПЭН — гэта Асацыяцыя Пісьменнікаў Свету). Кожны трэці ўдзельнік прыбыў з блізкага або далёкага замежжа, у іх ліку з Амерыкі і, нават, з Ізраілю.

Для бытавой выгоды і, пэўна ж, забеспячэння ад спадзяваных правакацыяў у нежаданы ўладамі пяцідзённы міжнародны з'езд, дыслакавана імпрэзу ў пісьменніцкім доме адпачынку *Іслач*, які знаходзіцца ў сасновым лесе з лугамі і рэчкай за мястэчкам Ракаў (гадзіна язды аўтобусам з мінскай двухмільённай агламерацыі).

Прыблізна ў тыя самыя тэрміны праходзіла і згаданае штогодняе свята беларускай пісьмовасці, мерапрыемства дашчэнту афіцыйнае, непадобнае да пазаўрадавага ПЭНу. Беларускім постсавецкім літаратарам абазначала гэта свайго роду плебісцыт: хто і куды? Бездыскусійны аўтарытэт Васіля Быкава, пастулаванага кандыдата на Нобелеўскую прэмію і прэзідэнта Беларускага ПЭН-цэнтра, зрабіў сваё: у *Іслач* з'явіўся гатунковы гарнітур мастакоў слова, як быццам на чале з мажным і па-артыстакратычнаму дастойным Янкам Брылём. А плоткі паімчалі пад супрацьны бераг, відаць, у спадзяванні якой-колечы карысці сабе... Зрэшты, сюды яны не прабіліся б, служба парадку дакладна прытрымлівалася імяннога спіску запрошаных (прагналі якогасьці тэлевізійніка без візы і пару неакрэдытаваных папярэдне журналістаў).

Гэта пачатак працэсу фармавання ў Рэспубліцы Беларусь альтэрнатыўнага саветчыне асяроддзя культуры, фронту адмовы ў супрацоўніцтве з чужароднымі дзяржаўнымі структурамі. Знакаміта паспрыялі таму ферменту антыінтэлігенцкія выказванні самога прэзідэнта Лукашэнкі, яго па-валэнсаўску зняважлівыя адносіны плебея да інтэлектуалаў, тыпу: *Зачем нам эти умники?* Даволі незразумелы сіндром ігнаравання ападыктычнымі ўладарамі адукаваных слаёў народа, што нязменна прадракае ім ляскатлівы ўпадак. Аніяк не навучацца, вось, пазбягаць тае памылкі... Справа тут у нейкіх універсальных якасцях антыдэмакратычных рэжымаў.

Скромныя сродкі не дазволілі арганізатарам не толькі вярнуць, часта немалыя, выдаткі на дарогу — прынамсі запрошаным з кантыненту. Мерапрыемства гэтае, замест звычаёвых дзесяці дзён, рэдукавана напалову. Пленарныя пасяджэнні адбываліся амаль ад узыходу сонца да ўзыходу месяца, з перапынкамі на абед — на ўзроўні фабрычнай сталоўкі (падсеўшы да мяне Уэйсман з Даніі з панікай пазіраў на замест талерак). Лічы, на працягу трох сутак заслухалі мы шэсцьдзесят два загадзя падрыхтаваныя даклады і выступленні, таму і без шанцаў на дыскусію. Мала хто не ўзяў быў голас. На маё здзіўленне, найдаўжэй прамаўлялі з заходніх краінаў, разбіваючы маю тэзу пра гаварлівасць славянаў. Юдзіт Відал-Хол, намесніца рэдактара лонданскага часопіса за свабоду слова *Індэкс он Сэнсаршып*, здаецца, дасягнула таго рэкорду, у які сёй-той з шаноўнай аўдыторыі шмыгаў у бакавыя дзверы выпіць кубак кавы ў прыкалідорнай кафейцы. Зала ўсё ж не пусцела аж так, каб кідалася тое ў вочы. Тлумачу гэта тым, што такі форум настолькі новы беларускай эліце, што і выразных нуднікаў слухала яна хоць з мінімальным зацікаўленнем... Успомнілася: падобных аратараў у маю бытнасць у альпійскай Славеніі ігнаравалі паважаныя слухачы тлумным выхадам у хол. Арыгінальных жа ўзнагароджвалі апладысментамі, у паўзы цікаўліва абступалі іх.

Тэксты выступаючых магчыма было займець у той жа вечар, адначасна з ангельскім перакладам і vice versa. За банальныя не хапаліся, аднак, і тыя ксэрадрукі кіпамі валяліся пасля на падручным століку ля ўвахода.

Беларускі ПЭН-цэнтр надта малады. І як на свой дзіцячы ўзрост, няблага дае сабе рады. Разрастаецца з зайздроснай імклівасцю, як усенька маладое. Нягледзячы на безграшоўе ў ім, прыбывае яму сяброў, удзельнікаў, і — памалу — спонсараў. Шматлікасць ІІ-га Кангрэсу ці не ўдвая перавысіла інаўгурацыйны... Ягоная суперэлітнасць ды непадлегласць мінскім міністэрствам, сублімаваная прыватнасць, фармуе нечуваную ў савецкай Беларусі культурную паралель. Ломіць дзяржаўную манаполію ў далейшым станаўленні і развіцці нацыі. Служыць апірышчам, у недалёкай перспектыве не толькі маральным, самастойным ініцыятывам у творчых асяроддзях. Канец манаполіі на нацыянальнасць! Выяўляе, бы ў вядомай хімічнай рэакцыі, нешта кшталтам шчырасці і прадажнасці.

Ліквідаваць гэты асяродак незалежнай думкі і мастацтва палітычна нерэальна. За ім стаіць жа не адна купка пісьменнікаў з Рэспублікі, якіх можна, от, палохаць і тэрарызаваць на ўсе сілавыя лады. Маем дачыненне, як ні кажы, з арганізацыйнай філіяй сусветнай супольнасці інтэлектуалаў, нярэдка ўплывовых на міжнароднай арэне. Беларускае прабіваецца з правінцыйнага духоцця. Шмат значыць пры тым сама асоба Быкава, яго высокая пазіцыя ў культурных колах Еўропы. Нехта пажартаваў, што ў Беларусі два прэзідэнты: Аляксандр Лукашэнка як прэзідэнт дзяржавы, і Васіль Быкаў як прэзідэнт беларускай культуры... Гісторыя вучыць, што дзяржава неабавязкова вечная, але культура — так, заўсёды і ўсюды. Нават тады, калі прападае яе стваральнік-народ, пакідаючы ў спадчыну чалавецтву менавіта гэты свой неацэнны скарб.

Столькі пра агульны клімат, у якім адбываўся ІІ-гі Кангрэс Беларускага ПЭН-цэнтра, у пачатку верасня г.г. Пра яго інтэлектуальныя здабыткі спрабую аб'ектыўна напісаць у наступнай карэспандэнцыі.

## ПАСТАНОВА

**Другога Міжнароднага Кангрэса ў абарону дэмакратыі і культуры аб заснаванні Хельсінскай групы пры Выканаўчым камітэце Беларускага ПЭН-цэнтра**

Выказваючы глыбокую трывогу з прычыны таго, што ў Беларусі набываюць размах арышты і пераслед грамадзян без прад'яўлення ім афіцыйнага абвінавачвання, а толькі на аснове вуснага загаду, які зыходзіць з уладных інстанцый;

падкрэсліваючы, што ў краіне груба парушаюцца правы грамадзян на свабоду слова, друку, думкі, дэманстрацый і страйкаў;

адзначаючы, што вырашэнне дзяржаўных праблем з дапамогай сілавых метадаў і грубага парушэння Канстытуцыі непазбежна вядзе да рэзкага звужэння дэмакратычнай прасторы і ўзмацняе пагрозу аднаўлення таталітарнага рэжыму на „асобна ўзятай тэрыторыі Беларусі",

Другі Міжнародны Кангрэс

**ПАСТАНАЎЛЯЕ:**

Заснаваць пры Выканаўчым камітэце Беларускага ПЭН-цэнтра Хельсінскую групу.

*Яўген Будзінас*

# Саўдзельніцтва і адказнасць

*У пачатку верасня адбыўся ІІ-гі Кангрэс Беларускага ПЭН-цэнтра ў абарону дэмакратыі і культуры, што ўяўляе сабою галоўную задачу гэтай сусветнай арганізацыі пісьменнікаў. Выступіла на ім шэсцьдзесят двух са ста ўдзельнікаў з Беларусі і шматлікіх краін Еўропы, канцэнтруючыся на сітуацыі, у якой апынулася беларуская мова, культура, свабода слова.*

*Публікуем выступленне Яўгена Будзінаса, госця кангрэсу і аднаго з яго спонсараў, шэфа фірмы „Паліфакт". Тэкст гэты на беларускую мову пераклаў Сакрат Яновіч, які як удзельнік Кангрэса, асабіста атрымаў ад сп. Будзінаса права на першадрук у „Ніве".*

*Важны тэкст, варты асаблівай увагі Шаноўных Чытачоў.*

Сёння хачу працягваць тую тэму, якую пачаў быў тут я паўтара года таму назад. Казаў я тады пра саўдзельніцтва інтэлігенцыі ва ўсім тым, што адбываецца ў краіне, і пра непазбежнасць расплаты за гэту блізарукасць. Тады казаў і пра тое, менавіта, што мы не маем права заставацца ў позе і абавязаны быць рэалістамі, таму што як толькі страчваем чуццё рэалізму, узнікаюць шчыліны, у якія праціскаюцца ўсякія Жырыноўскія і, разрастаючыся, засланяюць яны ўсенька сабою.

Падобнае на тое, што настаў ужо час тае расплаты. Адчуванне рэальнасці намі, аднак, не павялічылася. Мы зноў забываемся азірнуцца. І злуемся на люстра, не разумеючы, што не яно вінавата, а наша морда...

Ну добра, я згодзен з вамі: хворы чалавек ёсць хворы.

Але ў доме, гаспадар якога невылечна хворы, не прынята гаварыць пра хваробу. Акрамя тактоўнасці, у гэтым яшчэ і здаровы сэнс. Чаго мудрагеліць у выкрыванні хваробы, калі трэба жыць. Перш за ўсё жыць!

Гэта ўзяты мною просты выпадак. Калі хворы толькі гаспадар, а не ўсе хатнія. І ніхто не прычыніўся да таго, што не зусім здаровы чалавек аказаўся гаспадаром дома.

У нас, аднак, цалкам інакш.

Па-першае, усе мы прычыніліся. Усе саўдзельнікі бяды. Мы дазволілі сабе раскошу падзяліць выбарчыя галасы. Аднаму вельмі даспадобы аказаўся бесхрыбетны Шушкевіч, іншаму атлетычны прыгажун Карпенка, яшчэ каму нягнуткі і бескампрамісны Пазьняк. Мы ахвотна дапамагалі сваім божышчам цягнуць імі коўдру на сябе, абсалютна не разумеючы небяспекі такіх безадказных учынкаў.

Па-другое, калі хто-небудзь і хворы ў гэтым доме, дык гэта сам народ. Ён сапраўды пазбаўлены нацыянальнай самасвядомасці, сапраўды хоча размаўляць толькі па-руску і выконваць толькі рашэнні Масквы. Пры гэтым ён хітра ненавідзіць камерсантаў, а яны ж Маскву тую ўжо даўно глынулі. І кахае камуністаў, якія гэты ж самы народ зрабілі бедным, жабрачым.

За Лукашэнкам сапраўды стаіць бальшыня нашых людзей, ён сапраўды блізкі гэтаму народу, ягоным спадзяванням ды імкненням. Ён, Лукашэнка, у стане зразумець, чаго хоча народ і выкарыстаць гэта ў сваіх мэтах. А мы — не ў стане ані зразумець, ані пакарыстацца. Таму, што...

І гэта па-трэцяе: **самі мы хворыя**. Хворыя разумовай дыстрафіяй, настолькі моцна і ўсяцельна, настолькі імпатэнтныя мы, што хаця б паўкроку наперад няздольныя разлічыць, прадбачыць сітуацыю. Ідучы ў палітыку мы не ў моцы ўспрыняць прынамсі элементарнае ў ёй, найпростых з простых правілаў яе. Мы толькі пачынаем здагадвацца, што народ папраўдзе дурны і падатлівы маніпуляцыі. Але дурнота — гэта не адсутнасць розуму, а гэта т а к і розум. Наш прэзідэнт мае — менавіта — т а к і розум, таму і ёсць так, што не мы з народам, а ён з ім якраз. І надоўга. Думаю, на добры дзесятак гадоў.

Ідучы ў мінулым годзе на выбары, рыхтуючыся да іх, мы заядла не прыкмячалі становішча ў Беларусі і нічога потым не навучыліся. І ў гэты год цалкам усё пусцілі ў пустапаш. Упярэдадзень выбараў той жа Беларускі Народны Фронт самаўпэўніўся ў будучай сакрушальнай сваёй перамозе неўзабаве пра якую трубіў на кожным кроку, не лічачыся з аніякімі партнёрамі, адкідаючы ўсякую кансалідацыю, які-колечы хоць кампраміс. І ў выніку не атрымаў аніводнага месца ў парламенце. Не лічу, на жаль, што і гэта дапамагло яму адчуць рэальнасць, спазнаўшы аж такую катастрофу ў палітыцы!

Калі мы прыходзім у рускую сям'ю ў Беларусі агітаваць за Пазьняка і пры гэтым п р ы н ц ы п о в а размаўляем з ёю па-беларуску ды яшчэ пагражаем, што рускіх школаў хутка не будзе зусім, а рускую мову будуць навучаць толькі з пятага класа, накшталт іншаземнай, то не зусім зразумела, чаго нам трэба: перамогі на выбарах, ці прынцыпу *Вам пешшу, ці ехаць?* (так пыталі некалі ў Адэсе).

Дарэчы, адмова ад грунтоўнага навучання прадмета рускай мовы ўяўляецца мне ў нечым тым самым, што нядаўняя спроба прэзідэнта вывесці з карыстання новыя беларускія падручнікі. І так, супольнымі як быццам намаганнямі, мы ствараем новую д э г е н е р а ц ы ю беларусаў, якія з першага класа будуць вывучаць на роднай мове... марксізм-ленінізм.

Свабода друку ўяўляецца нам як права ўсяляк кпіць ды падкопваць, ганьбіць ды асмяшаць уладу, будучы перакананымі ў тым, што такім чынам мы дэманструем уласную бясстрашнасць і глыбакадумнасць. **На самой жа справе дэманструем сваю бяссільнасць і ўбоства розуму.**

Сённяшняя ўлада — прыкра сказаць! — гэта ўсяго толькі люстра, у якое не вельмі прыемна нам глядзець. А прычыны гэтай прыкрасці давайце пашукаем у саміх сябе найперш. Свае памылкі і пралікі давайце падлічваць і аналізаваць. Тады мы зразумеем, што нас — разам з усім народам — чакае вялікая работа, каб самавылечыцца, і каб займець элементарнае ўяўленне наконт свабоды і правоў, парламентарызму, дэмакратыі, палітычнай барацьбы, нацыянальнай культуры, і — урэшце — саўдзельніцтва і адказнасці.

Пра гэта казаў я тут паўтара года назад, заклікаючы апамятацца і з'ядначацца, пакінуўшы ўласныя амбіцыі, і адчуць сваю адказнасць перад Гісторыяй. Пра тое ж самае кажу і сёння.

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 429

Рэдактар: Сакрат Яновіч

*Алесь Чобат*

## Мястэчка

Плошча з райкомам і кінатэатрам.
Рэстаран забіты на сорак дошак.
З навіны толькі два кіёскі прыватныя.
Іх палілі, ламалі, шукалі грошы.

А над шыферам хатаў сярэдняя школа
ўсіх вышэй тырчыць аж на тры паверхі.
Царква не выйдзе з рамонта. Справы лепш у касцёла.
Але гэта — успаміны ды сентыменты.

Лепш не можа тут быць. Тут людзей разагналі.
Местачкоўцы адны паміраць засталіся.
Шаферня вясковая свае тралі-валі
Рассыпае кругом, як кляны ў старым парку лісце.

## Шэсць сотак

Шэсць сотак гуркоў і бульбы.
Домік. Бочка з вадою.
Так выжываем пакуль мы.
Няма дарогі другое.

Няма яе і не трэба.
Толькі б горш не было.
Здурэла і так планета.
Навокал падман і зло.

Не маюць наіўных мараў,
Жывуць у гэтым жыцці
Ўнукі лагерных нараў,
Дзеці сотак шасці...

*Віктар Швед*

## Цэрквы гараць

*На папялішчы царквы*
*Праабражэння Гасподня*
*на Святой Гары Грабарцы*

Цэрквы гараць, як інквізіцыі кастры,
Папялеюць старынныя іконы.
Гар задушлівы нясуць вятры,
Неба поўніцца зарывам чырвоным.

Гараць абразы мучанікаў святых,
Што надалей праваслаўе вартуюць.
Калісьці жыўцом палілі іх,
За праваслаўную веру святую.

Цэрквы гараць — трагічны факт,
Яны пратрывалі стагоддзі, войны.
Гэта бясправуя страшэннага акт —
Цэрквы гараць у час наш спакойны.

Цэрквы гараць — скарб неацэнны прапаў.
Цэрквы гараць — бязбожная справа.
Падпальшчык на боскае руку падняў,
Падпальшчык боскае зняславіў.



Мал. Міколы Давідзюка

*Чэслаў Мілаш*

## Без дай прычыны

Хай сплыве блаславенне
На паламанае жыццё
Каб засталася радасць
Там дзе няма прычыны

Жывою ўзрушаны красою
Вечнай вясной у зеніце
Уцякаю над сябе
Адчаяннага

Якая ж даўкая гэта сіла!
Колькі ж хвалы ўзнясення
За тое што атрыманае
Тады калі страчанае

1977

*З польскай мовы пераклаў*
*Юры Трачук*

*Міра Лукша*

## капуста

капуста
расліна пачцівая
патрэбная
але хто звочыць
складанасць
скрытнай пачэснай
не пустой
душы капусты
развіваючы
сілай ці чула
яе завілістыя лісты
цярэбячы сціслы качан
моцны і смачны

## хвіля

крык ненароджаных слоў
у ненароджаным часе
у пакінутым месцы
што яшчэ не ўзнікла

і мяне няма
можа ўжо іду
крокамі без ног
голасам без слоў

*Ірэна Сламіньская*

* * *

агеньчыкі свечак мігцяць на іконах
царква моліцца пахілай сцяною
коціцца дыханне людскога натоўпу
гэта дзіцятка Божае мне забралі
думаю неразумна
а пяянне хору ўсцяж аднастайнае
гоніць свае парывы
крыжовая дарога прабегла па мне
кроў бурліць рабіна восень
толькі ў разумнейшых на ўздых вачах іконы
уздоўж
цень кладзецца
не ўцяку ад вачэй
за кляймо змроку няўхільна плачу
а праз вітражы глядзіць мне на рукі
вязка праменняў
віну можна змазаць цярпенне сцерці
толькі любові нішто не ўсцеражэ
ад паўценяў

*Пераклаў*
*Віктар Швед*

*Алена Анішэўская*

## Асенні трыпціх

Стала восень пад плотам,
Ногі падгаліла,
І кажа, што лета
Яшчэ не забыла.
Усміхнулася промнем
Вераснёвага сонца
І бабіна лета
Запляло ваконца.

* * *

Грыбамі лес прапах —
Кастрычнік —
Яго пара з палітрай фарбаў
Лес абходзіць,
Дзе маляваць, дзе пахам зводзіць,
То напяваць асеннія напевы.
Як сумна мне, што гэтак мала
Узяла я ад вясны і лета,
Што мне было падаравана,
Мінула песняю прапетай.

* * *

Пакуль апошні ліст з бярозы
Сарве пануры лістапад,
Няхай не муцяць вачэй слёзы,
Вясна шчэ вернецца назад.
То нам з табою не вярнуцца
У май жыцця і белы сад,
Ідзем паспешна і трывожна
У наш жыццёвы лістапад.

*Міхал Андрасюк*

## Дзяўчына, жанчына

Прыйшоў, не ведаю калі.

— Працуеце?

— Ага, — акурат меў я работу на могілках.

— Так. Трэба працаваць.

Гляджу — дзіўны нейкі. Белы, бы палатно. Стары? Малады? І худзенькі. Гадоў ці не пяць нічога не браў у рот.

— Адкуль вы, дзядзьку?

— А адсюль, — паказаў на могілкі. — Яна мяне сюды прывяла.

Неба агнём ападае на плечы, а мне раптам холадна.

— Яна, гэта хто? — не зразумеў я.

— Ну, яна. Вікця-Прыгажуня. Вікці не ведаеш?

— Не-е...

— Праўда, адкуль табе ведаць. Калі ж гэта тое было.

Прыгожая была. Не кахаць такое — проста грэх!

— Усё, чаго захочаш, — сказаў ёй аднойчы і такі быў пачатак.

— Зорку з неба дай! — зняў і зорку. О, вунь, там, — працягнуў руку, каб паказаць пустое месца. — Бачыш, там яна сядзела. Было потым клопату, не скажу. Нават з Варшавы прыязджалі.

— Аддай, — казалі. — Сорамна так. І дзірка, быццам небу зуб вырвалі. Увесь свет глядзіць, аддай! А як было аддаць? Падарунак забіраць назад? Ого, дудкі, я не з такіх, што даюць і забіраюць. А пасля, во, кракадзіла ёй заманулася. Што ж, на табе і кракадзіла. Сам асабіста ў Егіпет з'ездзіў за ім. Вярхом, на кані. Цэлы год ехаў. Вялізнага прывалок, туды яго маць! Быў зубаты вельмі. Глытаў усё, што жывое круцілася наўкола, а затым падаўся, гад, у свет.

— Та-ак... Закурыць маеш?

Маўчаў. І я з ім.

— А ведаеш, урэшце наказала яна мне такое: калі кахаеш, аддай сваё жыццё. Што было рабіць: ні ўзад, ні ўперад. Кахаць, не скажу, кахаў.

„Жудасць, а не баба! — думаю я сабе. — Так адабраць чалавеку ўсянютка, дашчэнту!?"

Ён жа як быццам чытаў мае думкі. Пакешкаўся крыху ў кішэнях, пакуль намацаў пад саваном зжаўцелы партрэцік. Глянулі на мяне з яго вочы звычайнае дзяўчыны, такое, якіх тысячы ходзіць каралевамі па тратуарах у бляску неонаў.

— Ну, мне пара, — падняўся быў са свайго месца. Махнуў далонямі па полах савана, быццам абтрасаючы нейкія пылінкі. Паставіўшы некалькі крокаў, адвярнуўся яшчэ.

— А тое, што звычайнае, а што цудоўнае, устанаўляем мы самі. Кожны сабе. І ад сябе.

Апускаю долу вочы. Калі зноў падняў іх, яго ўжо не было. Там, дзе стаяў, залаціўся сонечны праменьчык. Нешта нашэптвала высокая тут трава.


*Дырэктар школы Вера Філіповіч.*

# У Палічнай


*Восьмы клас з настаўніцай Ірэнай Тамашук.*

На Беласточчыне ва ўсіх школах памяталі пра „Прыбіранне свету" („Sprzątanie świata"), якое працягвалася 15, 16 і 17 верасня. У Палічнай, што ў Кляшчэлеўскай гміне, ад рання наводзілі парадкі ў наваколлі. Вучні пачалі ад свае школы. Удзельнічалі ўсе дзеці. Нават першакласнікі працавалі як дарослыя. Мясціна Палічна (па-мясцоваму Полічна) распаложана сярод бясконцых лясоў. Шэсць кіламетраў ад вёскі пачынаецца Белавежская пушча. Сама архітэктура Палічнай, таксама цікавая, пераважае драўлянае будаўніцтва. У вёсцы шмат бурых і карычневых хат, аздобленых ганкамі і арнаментамі.

— Школа ў нас невялікая, усяго 35 дзяцей, — гаворыць дырэктар Вера Філіповіч. — Калі я пачынала працаваць, а было гэта ў 70-м годзе, тут было больш за сотню дзяцей. Цяпер здараецца, што некаторыя класы не існуюць.

У Палічнай вучацца дзеці з Вярстка, Курашава, Белай Стражы, Апакі-Вялікай. На беларускую мову ходзяць 26 дзяцей.

— У нас усе праваслаўныя вучні ходзяць на гэтыя заняткі, — гаворыць дырэктар школы.

Прыемна было пазнаёміцца з вучнямі трэцяга, шостага і восьмага класаў. Настаўніца Ірэна Тамашук — беларусістка, расказала пра сваіх вучняў. Кася Вілюк з восьмага класа будзе прымаць удзел у прадметным конкурсе па беларускай мове. Думае яна паступіць у белліцэй у Гайнаўцы. Кася — адна дзяўчына на ўвесь восьмы клас. Разам з ёй чатыры хлопцы: Крыстафор Баран, Раман Бялявец, Андрэй Саевіч і Войтэк Кісель. Хлопцы збіраюцца ў прафесійныя школы.

— У мясцовай святліцы мы ладзім танцавальныя вечарыны, іграем ва ўсякія гульні. А ў цёплыя вечары рыхтуем вогнішчы, — гавораць пра свае пасляўрочныя заняткі хлопцы. Усе яны дапамагаюць бацькам у гаспадарцы. Зараз ідзе капанне бульбы. Тут таксама ходзяць у лес за грыбамі. Многія зарабляюць грошы на грыбах.

Успомню і я пра такі выпадак, звязаны з грыбамі. Са школы пайшла я на вёску. У дарозе дагналі мяне знаёмыя шасцікласнікі.

— Вярніцеся ў школу, вы там аставілі адну рэч, — пераконвалі мяне мае новыя сябры.

Перад школьным будынкам чакалі дзеці з трэцяга, шостага і першага класаў.

— Мы вам грыбоў назбіралі, — заявілі і падарылі мне торбу маладых баравікоў.

Сабралі іх вокамгненна за няцэлую гадзіну.

**Г. Кандрацюк**
**Фота аўтара**


*Школьны панадворак прыбіралі нават першакласнікі.*

# Сварлівая жонка

*(беларуская народная казка)*

Было такое сужонства — муж добры і справядлівы, баба — ліхая ды сварлівая. Паслала баба мужа ў лес.

— Чаго ты ўсё ў хаце сядзіш, ідзі, прынясі мне чарніц, грыбоў, дроў нарубай пучок! — загадала старая.

Дзед паслухмяны быў. Зайшоў у лес, сеў пад дубам журыцца, слёзы выцірае.

— Не журыся, раскажы мне сваё гора, — адазваўся нейкі голас.

— Баба з хаты выганяе. Заcтаўляе ўсё хадзіць, хадзіць, хадзіць. Цяжка, браток, старому, — жаліўся дзед.

— Ідзі дадому, усё будзе добра, — адказаў той голас.

Не паспеў дзед на панадворак увайсці, бачыць — стаяць перад хатай і ягады, і грыбы, і дровы.

Выйшла баба, паверыць не хоча.

— Дзед! Дзе ж ты гэта ўсё ўзяў?

— У лесе знайшоў.

— Дык гэта не ты ж нёс.

— Ну і што як не нёс? А што скажаш, калі праўду пачуеш? Не я нёс, прынеслі за мяне!

— Адпраў і мяне туды, хай і за мяне ўсё зробяць, — начапілася баба.

Дзед расказаў пра дуб.

Пайшла старэча да гэтага дуба.

— Прынясі мне сто кошыкаў грыбоў, ягад і дроў на тры зімы, — пачала, загадваць дубу свае жаданні баба. Сядзела, сядзела — ніхто не адазваўся.

Чакаў дзед бабу — не дачакаўся.

Пайшоў і ён у лес пад той дуб. Там убачыў толькі варону.

— А бабы маёй ты не бачыла? — папытаўся дзед у птушкі.

— Я ж, — кажа варона, — твая баба.

**З-ка**

## Увага, конкурс!

Намалюйце гэту казку і дашліце ў рэдакцыю. Самыя цікавыя працы апублікуем, а іх аўтары возьмуць удзел у штомесячным конкурсе „Зоркі".

# Загадкі

У жываце — лазня, у носе рэшата,
на галаве пупок,
адна рука — і тая на спіне.

***

На той свет ідзе, скача,
а з таго свету ідзе, плача.

***

Стаіць пястунчык,
за кожны глытунчык
просіць пацалунчык.

***

Глядзяць і ўдзень і ўночы,
Вытрашчыўшы вочы, —
Ні на двары ні ў хаце
Як называці?

***

Напхана пухам, ляжыць пад вухам.

*(чайнік, вядро ў калодзежы, шклянка, вокны, падушка)*

**З-ка**

# Скарагаворкі

Бегаў Сева вакол дрэва,
Потым дрэва вакол Севы.

***

Верабей стары не рады,
Град яго дратуе грады.

# „Печ, печ, памажы!"

Апошнім часам мы ўсё часцей звяртаемся да сваёй духоўнай спадчыны, імкнёмся зразумець светаўспрыманне, мары і надзеі нашых продкаў. Важнай рысай, якая вызначала светапогляд людзей мінулага, было адухаўленне ўсяго таго, што знаходзілася побач з чалавекам.

Печ займае ў сялянскай хаце важнае і пачэснае месца. Яе роля не толькі ў практычным прызначэнні (печ абагравае хату, у ёй варацъ ежу, на ёй спяць, адпачываюць, лечацца). З печчу звязана шмат вераванняў і ўяўленняў. Асаблівая павага да печы, адносіны да яе як да жывой істоты падкрэсліваюцца забаронай ужываць „у яе прысутнасці" грубыя або непрыстойныя словы: „Няможна гэтак казаць, бо печ у хаце", „Сказаў бы, ды печ у хаце".

Печ была своеасаблівым цэнтрам хаты, увасабленнем старажытнага агменю (ачага), без якога немагчыма ўявіць сабе чалавечае жыццё. Невыпадкова менавіта печ (а дакладней — падпечак) лічылася месцам знаходжання добрага духа — дамавіка, галоўныя „абавязкі" якога — клопат пра дабрабыт сям'і. Дамавіка атаясамлівалі з кутнім слупам печы, які называлі звычайна дзедам.

У тых выпадках, калі неабходна было здабыць „жывы агонь", яго атрымлівалі вярчэннем вераяна ў якой-небудзь шчыліне пячнога дзеда. Як бачым, печ уяўлялася сімвалам дзядоў — продкаў, якія „дораць" агонь, а з ім — жыццё. Цікава, што ў некаторых месцах Беларусі дзедам называюць прыстасаванне, у якое ўтыкаецца лучына для асвятлення хаты.

Беларусам быў вядомы такі звычай: кума, перш чым перадаць маці ахрышчанае дзіця, пасля вяртання з царквы абносіла яго тройчы вакол слупа печы, „каб дзіця любіла хату і трымалася ".

Вясной, у дзень першага выгану жывёлы ў поле, гаспадыні кармілі кароў на пячной засланцы, прыгаворваючы: „Як гэтая засланка кожную ноч стаіць на сваім месцы, так бы і наша кароўка стаяла кожную ноч на сваім двары".

З гэтай жа мэтай кармілі на засланцы і купленую карову, якую прыводзілі на панадворак.

Печ успрымалі і як надзейную заступніцу ад хваробы, або смерці. Існавала такая парада: пры ўваходзе ў хату, у якой ляжыць хворы, трэба спачатку паглядзець на печ, каб не прыстала хвароба. Пасля вяртання з могілак удзельнікі пахавальнай працэсіі перш за ўсё выконвалі абрад ачышчэння агнём: адчынялі ў печы засланку і па чарзе грэлі рукі, „каб смерць праз комін пайшла".

У народнай медыцыне беларусаў быў вядомы прыём сімвалічнага „запякання" слабых, хворых дзяцей у печы. Дзіця закутвалі ў коўдру і трымалі некалькі хвілін у печы адразу пасля таго, як скончаць паліць. Лічылася, што пасля такога „запякання" дзіця набывае сілу і здароўе.

Асабліва выразнай была шлюбная сімволіка, бо печ асэнсоўвалася як „жаночае" месца ў хаце. Сваты, збіраючыся ісці сватаць дзяўчыну, дакраналіся да печы ў сваім доме, „каб быў лад". Прыйшоўшы ў хату будучай нявесты, яны перш за ўсё набліжаліся да печы і ціхенька звярталіся да яе: „Печ, печ, памажы!" Пасля віталіся з гаспадарамі: садзіліся на лаву і пачыналі гаворку.

Пашана да печы як да месца знаходжання душ продкаў адлюстравана і ў беларускім звычаі, згодна з якім бацькі, пачуўшы прапанову сваццi, раяцца паміж сабою, адышоўшы да печы. На Украіне ў час сватання нявеста, выказваючы сваю згоду выйсці за таго, хто да яе сватаецца, моўчкі садзілася на печ і калупала пальцам гліну.

У некаторых вёсках Гомельшчыны і цяпер існуе старадаўні звычай: маладая на другі дзень пасля вяселля беліць печ у хаце маладога. Гэтым яна імкнецца „задобрыць" печ, наладзіць адносіны з ёю, а значыць — з новай сям'ёй.

*(В. Раманцэвіч, „Пачаткі роднай мовы")*

## Вершы Віктара Шведа

### ПЯЦІГОДДЗЕ

Усёй сям'ёй цярпліва штодзень
Хвіліны гэтае чакалі,
Калі надыдзе пяцігодздзе
Дачушкі нашае Наталлі.

А вось і верасня палова
І ў нашай хаце раптам свята.
Мы юбілей сустрэць гатовы
Усхваляванай нашай Наты.

— Ужо я не малышка болей, —
Сцвярджае з мінаю салодкай.
Цяпер у нашым я прадшколлі
У групе буду пяцігодкаў.

Расці, мужней нам з кожным годам
І пазнавай жыцця крыніцы,
Каб маці, бацька твой заўсёды
Маглі табою ганарыцца.

### ВЯЛІКАЯ ПЯСОЧНІЦА

Ізноў прывіталі Наталлю
Марскія шумлівыя хвалі.
Сямейкай усёй зноўку ляжам
На гэтым агромністым пляжы.

Наталля раптам сказала:
— Пясочніца тут, якіх мала.
Такой не сустрэнем ніколі
Нат у найбольшым прадшколлі.

### У ЛАРКАХ МЫ КУПІМ

Ната на ўзбярэжжы ў летнім жары
Ракавін шукае і янтару.
Уздоўж пляжа затаміла ногі,
Не знайшла чамусьці анічога.

— Дык няма бяды, — сказала Ната,
Янтар, ракавіны купіць тата.
Бачыла, што ва Уладзіславове
У ларках іх прадаюць панове.

### ДЗВЕ НАТАЛЬКІ

Едзе Ната скорым,
Бярэ ў свае ручкі
І вязе над мора
Ляльку-неразлучку.

Надта ў хуткім часе
У кут пайшла лялька,
Да гульні знайшлася
Сяброўка Наталька.

## ПАНАРАМІЧНАЯ КРЫЖАВАНКА „ЗОРКІ"

Запоўніце клеткі, а адказы прышліце ў рэдакцыю. Тут разыграем узнагароду – касету гурту „Белы сон".

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Ой у лузе, при даліне, зацвіла ---- (песня) / сілач, сілач → | Дзіця → ↓ / Маці ↓ | | Панешчык → ↓ / Спакой ↓ | | Заплецены валасы ↓ |
| | | | | | |
| Страва з круп → | | | | ← Шэры грызун або „Пік-пік" | |
| | | | | Першая літара алфавіту → | |

# ЛІЧЭБНІК, РОЗУМУ ЛЯЧЭБНІК

**1**

АДЗІН у хаце я сяджу,
На АДНАГО сябе гляджу
І АДНАМУ сабе цвярджу:

„АДЗІН не ўседжу я — таму,
Што вельмі сумна АДНАМУ".

**2**

ДВА сябры, як ДВА крылы
Добрай птушкі — дружбы.
І дарослы, і малы
З ёй жывуць — не тужаць.

ДВА — адразу ж УДВАЯ
Вырастае моц твая.
ДВА — на выручку гукай!
Але ў дзённік — не пускай...

**3**

Раз, два, ТРЫ,
Раз, два, ТРЫ —
Вывучы і паўтары.
Знай урок
Назубок,
Ды бяздумна не зубры:
Раз, два, ТРЫ,
Раз, два, ТРЫ...

І яшчэ адзін урок
Ты запомні, галубок;
ТРЫ — адзнака як адзнака,
Толькі ведаў — кот наплакаў.

**4**

ЧАТЫРЫ ножкі мае стол,
ЧАТЫРЫ ножкі ў кошкі,
На ЧАТЫРОХ нагах асёл,
На ЧАТЫРОХ нагах казёл —
Задзірыстыя рожкі.

І я з ЧАЦВЁРКАЙ неўспадзеў
Зраднiўся з той нагоды,
Што на сняданак сёння з'еў
ЧАТЫРЫ бутэрброды!

**5**

ПЯЦЬ
Жадае пажадаць,
Каб усё
Было на ПЯЦЬ!

**6**

Жартавалі: тры ды тры —
Дзірка атрымаецца.
Але гэты жарт стары
Жартам і канчаецца.
Бо калі вучоба ў нас,
То смяяцца годзе.
Тры ды тры складзі — якраз
Роўна ШЭСЦЬ выходзіць!

**7**

Сем дзён на тыдні,
І СЕМ дзён
Па-свойму кожны з іх
Відзён.

Ды трэба пастарацца —
Пяць дзён запоўніць працай.
Панядзелак —
Не няўмелак,
І аўторак —
Зверне горы,
Серада —
Непаседа,
І чацвер —
Шыбуе следам.
А за імі —
Пятніца —
Круглая выдатніца!

А зараз ад СЯМІ —
Ад тыдзеньскай сям'і —
Два дні мы адымаем,
І ўсе — адпачываем!
Субота
І нядзеля —
Вясёлыя падзеі!..

**8**

Да сямі дадай адзін —
Вось і маеш ВОСЕМ:
Год у першы клас хадзіў,
А цяпер, увосень,
У другі ты пойдзеш клас —
Будзе ВОСЕМ год якраз.

**9**

Кліча ДЗЕВЯЦЬ:
— Дзеці, дзе вы?
Дзеці, зараз будзе свята,
Бо канчаецца дзесятак.

**10**

ДЗЕСЯЦЬ выйшла на парог,
НУЛЬ круглее, як пірог:
Гэта лічбам на ласунак
Ад адзінкі падарунак.
Падарунак дарагі,
Бо не простыя кругі
І не бурбалкі пустыя,
Што як стрэлы халастыя, —
Знайце: гэтыя НУЛІ
Пры лічэнні — каралі.
Калі НУЛЬ пры лічбе стане,
Лічба мігам узрастае
Аж у дзесяць разоў, —
Вось вам выхадзец з нізоў!..

*Васіль Зуёнак, „Бадзірог"*

*Юры Баена*

# Культурная спадчына ў рэгіёне

У многіх краінах і рэгіёнах Еўропы і свету на працягу нейкага часу назіраецца адраджэнне (часам толькі імкненні да адраджэння) рэгіянальнай свядомасці. Найчасцей называецца гэта „вяртаннем да карэнняў", „этнічным прабуджэннем" або „ўкараненнем у малой айчыне". Пастулат дбайнасці пра культурную спадчыну правіваецца ў многіх дакументах сусветных арганізацый, у тым ліку ЮНЭСКА і Міжнароднай геаграфічнай уніі.

Асноўнай умовай захавання сваёй культуры, яе трывання з'яўляецца патрэба перадачы з пакалення ў пакаленне культурнай спадчыны. Нельга гэтае атаясамліваць толькі з фальклорам ці фальклорнасцю, а трэба справу бачыць шырэй — у катэгорыях жывой традыцыі і мовы. Думка якраз ідзе пра дынамізм у развіцці, пра паступовае ўзбагачванне свайго асяроддзя культурнымі вартасцямі. Разнароднасць духоўнага жыцця грамадства спараджае менавіта тую дынаміку, дае шмат новых сіл культуры.

Аўтэнтычная культурная спадчына з'яўляецца таксама найлепшай формай абароны ад уніфікатарства, якое так бязлітасна, так жорстка выбівае найбольш вартасныя, непаўторныя каштоўнасці. Супольнасць стварае таксама падставы і выпрацоўвае магчымасці карыстацца шырокім спектрам грамадскіх, гаспадарчых, культурных, а нават і палітычных дзеянняў. У рэшце рэшт дазваляе рацыянальна і прадбачліва вырашаць свае сённяшнія праблемы ды пытанні будучыні, а чалавеку як адзінцы ў кожнай сітуацыі дае шанц быць сабой „у сябе".

Свабодны грамадзянін, калі хоча адчуваць сябе свабодным ва ўмовах цывілізацыйных перамен, павінен мець пачуццё суб'ектнасці. Сацыялагічныя даследаванні адназначна паказваюць на значную разгубленасць, бездапаможнасць чалавека ў сучасным свеце, калі яго пазбавіць магчымасці ідэнтыфікацыі з пэўным блізкім яму асяроддзем. Падстава яго творчай актыўнасці — гэта пачуццё прыналежнасці канкрэтнаму месцу, канкрэтнай супольнасці, якая сфарміравалася як рэзультат найчасцей складаных гістарычных, геаграфічных, этнічных ды культурных працэсаў. Моцнае ўкараненне чалавека ў блізкай яму супольнасці, культуры, тэрыторыі чыніць магутны ўплыў на разуменне ім сваіх правоў і абавязкаў, эмацыянальна ўключае ў ход спраў уласнага асяроддзя.

Некалькі месяцаў таму назад Міністэрства нацыянальнай адукацыі падрыхтавала праект новай праграмы п.з. „Культурная спадчына ў рэгіёне" („Dziedzictwo kulturowe w regionie"). Гэты праект дакумента трапіў потым у многія асветныя асяроддзі і інстытуты краіны.

Мэтай праграмы з'яўляецца тое, каб праблематыцы рэгіянальнага абучэння і выхавання надаць належны ёй ранг. Больш грунтоўнае знаёмства з гістарычнай спадчынай, тоеснасцю рэгіёна, з усімі яго вартасцямі ды актыўная прысутнасць ва ўласнай культуры мае ўздзейнічаць на фарміраванне свядомасці маладых грамадзян краіны і сваёй малой айчыны, а таксама на стаўленне, накіраванае на разуменне іншых людскіх культур (вядома, садзейнічае яно тады пашане чужой іншасці).

Змест праграмы „Культурная спадчына ў рэгіёне" м.інш. звязаны з патрэбай разумення шматлікіх паняццяў, якія тычацца асабліва тэрыторыі, супольнасці (грамадскасці), сферы культуры, пэўных адносін у грамадстве (вось прыкладныя тут лозунгі: мясцовы патрыятызм, нацыяналізм, правінцыялізм, ксенафобія). Аўтары звяртаюць яшчэ ўвагу на рэгіянальныя назвы геаграфічных аб'ектаў (карэнныя назвы мясцовасцей, дарог, палёў, урочышчаў, рэк і г.д). Для аптымальных магчымасцей рэалізацыі праграмнага зместу павінна быць выкарыстанае цеснае супрацоўніцтва з дзейнічаючымі ў рэгіёне таварыствамі, арганізацыямі, фондамі, музеямі, дамамі культуры, бібліятэкамі, самадзейным рухам. Нельга не наладзіць зносін з народнымі творцамі і прадстаўнікамі вымяраючых прафесій.

Праграма паясняе, што пазнаванне дзяцьмі ўласнай культурнай спадчыны трэба пачаць ужо з маленства, потым прадаўжаць на кожным этапе адукацыі праз розныя формы і метады працы, дапасаваныя да псіхафізічнага і інтэлектуальнага ўзроўню развіцця маладых індывідуальнасцей, на ўроках з выкарыстаннем праграмных падстаў паасобных прадметаў (тых, што ахопліваюць культурны і рэгіянальны змест), у пазакласных і пазашкольных занятках. Ёсць магчымасць уключыць яе ў праграмы конкурсаў, алімпіяд, гуртоў зацікаўлення, экскурсій, а таксама ў тэматыку самаадукацыйных педагагічных рад у школах. Аўтары вышэйзгаданага праекта мяркуюць, што іх дакумент знойдзе пачэснае месца таксама і ў будучай зрэфармаванай школе. У блізкай перспектыве часу будзе ён рэалізаваны ў т.зв. міжпрадметных сцежках.

Вельмі важным пытаннем становіцца яшчэ патрэба памірэння рэгіяналізму з універсалізмам. Вопыт вучыць, што абодва стаўленні ўзаемна не выключаюцца. Наадварот, сусветнай славы творцы культуры вельмі часта карысталіся рэгіянальнай скарбніцай, экспануючы адначасова шматграннае хараство і гуманістычныя яе вартасці. Свядомае ўдзельніцтва ў розных супольнасцях (культурнай, рэлігійнай, палітычнай, прафесіянальнай) — гэта найлепшая падрыхтоўка таксама да універсалізму ў жыццёвых справах.

Праект праграмы „Dziedzictwo kulturowe w regionie" трапіў і ў Аб'яднанне ўстаноў удасканальвання настаўнікаў у Беластоку. Школьныя візітатары і дарадчыкі-метадысты спадзяюцца, што праграма стане прычынай „kształtowania poczucia własnej tożsamości nie jako podstawy separacji, ale fundamentu tworzenia postaw otwartych, liberalnych, tolerancyjnych, nastawionych na pluralizm różnych kultur i ich zrozumienie". Беластачане маюць таксама перакананасць у патрэбе і мэтазгоднасці хуткага ўвядзення новай праграмы ў працу школ. Вядома мне ўжо і тое, што праект праграмы пра культурную спадчыну рэгіёна будзе тэмай дыскусіі настаўнікаў Беластоцкага ваяводства падчас іх восеньскіх прадметна-метадычных канферэнцый. Хочаш не хочаш, а „еўрапейскасць" запускае карэнне і ў нашым старонні!

Сярэдне-Усходняя Еўропа — гэта тэрыторыя, дзе так многа нацыянальнасцей і этнічных груп шукае свайго радаслоўя і глыбіні тоеснасці. Гістарычнае мінулае большасці з іх не можа аднак быць зайздросным узорам для будучыні. Імкненне да лепшага, згоднага жыцця і супрацоўніцтва патрабуе проста нейкага іншага, больш стабільнага ладу для ўсіх народаў, якія — зразумела — павінны тут астацца як роўныя сярод роўных.

Праект праграмы польскага Міністэрства нацыянальнай адукацыі можа быць пераканаўчым пацвярджэннем яшчэ і таго, што ніводная грамадскасць, ніводзін народ не можа сёння жыць сам па сабе, што ўсе маюць пэўныя абавязкі ў адносінах да іншых, да агульнаеўрапейскага ладу і ўсяго чалавецтва. Няма тут сумнення, што ідэя рэгіяналізму ёсць паслядоўным і вельмі станоўчым вынікам мірнай рэвалюцыі 1989 года.

На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў у польскім грамадстве адбываўся працэс паступовага замірання рэгіянальнай свядомасці. Да гэтага заняпаду прычынілася культурная палітыка камуністычных улад, якія рэгіяналізм успрымалі ў катэгорыях кансерватызму і партыкулярызму. Моцныя рэгіёны Польшчы напэўна адбудуюць сваю тоеснасць. На жаль, ва ўсходняй Беласточчыне праблема надзвычайная: асіміляцыя беларускай нацыянальнай меншасці, а за тым дэградацыя своеасаблівай культурнай субстанцыі на значна абязлюдзелай тэрыторыі адбываецца непараўнальна хутчэй, чым загадкавыя працэсы эмансіпацыі беларушчыны на практыцы. Новая адукацыйная праграма „Культурная спадчына ў рэгіёне" ўсё-такі яшчэ можа ў беларускіх сэрцах распаліць крыху іскрынак аптымізму.

# РЫМСКІЯ ВАКАЦЫІ

*Працяг са стар. 1*

Пра палітыку кажуць, што павязана яна неразрыўнымі ніцямі з мафійнымі структурамі. Пасля таго, як рухнуў увесь пасляваенны дэмакратычны лад у Італіі, абаперты на хрысціянскай дэмакратыі і сацыялістах, былы прэм'ер-міністр Краксі ўцёк ад суда ў Туніс, а на чале ўрада скампраметаваўся багач Бэрлюсконі — дзіўная рэч, італьянская гаспадарка цвіце. Курс ліры ў адносінах да долара ды іншых канверсуемых валют, расце. Інтарэс італьянцаў да палітыкі ніяк нельга параўнаць да зацікаўлення футболам. Пачатак лігі выклікае страсці амаль ва ўсіх, калі палітыка, як і рэлігія, гэта прыватная справа кожнага чалавека.

* * *

Сапраўды пасля пятнаццатага пачынаюцца дажджы і хаця яшчэ душна, але дыхаць становіцца крыху лягчэй. У гэты час у Рыме паяўляецца надзвычай многа польскіх экскурсій, асабліва ў сераду, калі папа мае сваю генеральную аўдыенцыю.

Палякаў я пазнаваў ужо не па вопратцы, як калісь, бо гэтая ўжо стала сапраўды касмапалітычнай, але па прычосках жанчын. У кожнай старэйшай польскай кабеты — „андуляцыя". Цяжка мне вытлумачыць, у чым якраз характэрны гэты спосаб завіўкі, што адразу трапляе на вочы. Ды можа і не трапляла б, калі б бачыў адну жанчыну. Але палякі ходзяць групамі, так як прыехалі ў аўтокары.

Не так, як „новыя рускія". Яны так далёка не ездзяць аўтобусамі, карыстаюцца выключна самалётамі. Сустракаеш іх у невялічкіх кампаніях, у найбольш шыкарных гатэлях і крамах. Як тыя дзве, з буйным дэкальтэ і ў кароткіх сексоўных штоніках з джынсу, якіх убачыў я аднойчы на Іспанскай плошчы. Адна выняла з сумачкі сотавы тэлефон, пагаварыла ў яго па-расейску, гучна парагатала, а затым сяброўкі селі ў жоўтае таксі і падулі куды ім трэба. Можа не лішнім будзе зазначыць, што ні сотавыя тэлефоны, ні таксі ў Рыме не танныя.

Аўтар на хваляломе ў Нэтуна(60 км на поўдзень ад Рыма).

* * *

У зваротнай дарозе, у аўтобусе, давodзіцца заступіцца мне за польскую дэмакратыю і капіталістычны лад жыцця. Адна жанчына дзесьці з-пад Лодзі давай наракаць, як то цяперашняя ўлада раскрадае нацыянальную маёмасць і мучыць бедны народ. „Не так было пры камуністах", — ад цёплых успамінаў аж паяснеў яе твар. Мая заўвага, што „бедны народ", як ва Урсусе, нічога не робіць, толькі страйкуе, сустрэлася з абурэннем (відаць слушным, бо нашто соваць нос не ў свае справы). А спроба прадставіць як козыр дэмакратыі магчымасць свабоднага выезду, хаця б у Італію, выклікала толькі словы: „Так, але хто можа?" — „Пані, як відаць можа, я магу"... — працягваць спрэчкі не было сэнсу пасля канстатацыі: „Widać, że pan nic nie rozumie".

У сезоне ў Італію з Польшчы адпраўляецца штодзень па некалькі рэйсавых аўтобусаў. На ніводзін з іх білет у апошнюю хвіліну не дастанеце.

За ўсё падарожжа туды і назад (больш за суткі ў адзін бок) пячатку ў пашпарт паставілі толькі раз аўстрыйцы. І яшчэ пыталі, ці не вязем замнога алкаголю і цыгарэт. Італьянскія пагранічнікі спалі за першым і за другім разам. Аўстрыйцы ў зваротнай дарозе таксама не вылезлі на імжаўку. Палякі і чэхі заходзілі ў аўтобус чыста руціна, відаць, каб сказаць „Добры дзень". І нікога з пасажыраў гэта не здзіўляла — да добрага чалавек хутка прывыкае. Я ўжо і сам быў забыўся, што яшчэ шэсць гадоў таму, пасля такога падарожжа трэба было несці пашпарт на міліцыю і рыхтавацца да некалькіх малапрыемных размоў з панамі ў цывільным. А такія ліберальныя межы толькі таму мяне здзівілі, што часцей езджу на ўсход, чым на захад.

Мая мара цяпер: пасылаць партыямі мытнікаў і пагранічнікаў з Кузніцы і Полаўцаў (польскіх і беларускіх) хоць на дзень-два не куды ў Філах ці Тарвізіё, але ў Цешын.

**Мікола Ваўранюк**

# БЕЛЬСКІЯ ЦЭРКВЫ

У бельскіх цэрквах і беларускіх выдавецкіх асяродках у Беластоку паказалася ў продажы кніжка айца Рыгора Сасны і Дарафея Фёніка *Dzieje Cerkwi w Bielsku Podlaskim (Гісторыя Царквы ў Бельску-Падляшскім)*. Выдала яе Беларускае гістарычнае таварыства ў Беластоку. Аўтары кніжкі, вядомыя чытачам „Нівы" як знакамітыя даследчыкі гісторыі праваслаўя на Беластоцкай зямлі, а згаданая кніжка — плён некалькіх гадоў іх працы ў гэтай галіне.

Змест кніжкі не абмяжоўваецца толькі да чыста рэлігійнай мінуўшчыны старадаўняга горада Бельска-Падляшскага. Першая частка — сем раздзелаў — прысвечаная таксама гісторыі горада ад пачатку яго існавання па сучаснасць. Другая — прадстаўляе гістарычныя нарысы пяці цэркваў і прыходаў горада. Шмат там таксама інфармацый пра выдатных людзей, якія пакінулі след у грамадскім, рэлігійным ці палітычным жыцці Бельска. Дарэчы, аўтары і прысвяцілі сваю кніжку памяці аднаго з такіх дзеячаў — Яраслава Касцэвіча, арганізатара беларускага школьніцтва на Бельшчыне. Кніжка багата ілюстраваная здымкамі, якія знакаміта дапаўняюць яе змест. Гэтае выданне павінна зацікавіць не толькі жыхароў Бельска-Падляшскага, але і ўсіх даследчыкаў гісторыі нашага беластоцкага рэгіёна. Трэба спадзявацца, што яна выкліча і бурныя дыскусіі. Кніжку можна купіць у рэдакцыях „Нівы" і „Czasopisa".

**рэд.**

------------

*o. Grzegorz Sosna, Doroteusz Fionik, Dzieje Cerkwi w Bielsku Podlaskim*, wyd. Białoruskie Towarzystwo Historyczne, Białystok 1995, s. 194.

# Медаль нашай маладосці

Канец жніўня, будні дзень чацвер. У аўтобусе з Баб'яй-Гары цераз Семяноўку ў Гайнаўку найбольш святочна апранутых мужчын. Міхал Зубрыцкі з Баб'яй-Гары, Аляксандр Шыманюк з Семяноўкі, Мікалай Тарасевіч з Пасек... На шляху далучаюцца іншыя — з Ляўкова, Нараўкі, Свінароя, Скупава. Апошні, у Навасадах, у салон ускоквае жвавы дзядуля — Ян Антанюк, і зыркім зрокам акінуўшы пасажыраў, запытваецца:

— І вы, сябры, да Сталіна па медаль?

Праз хвіліну ўвесь аўтобус ажывае — дзед Ян умомант разварушвае кампанію былых франтавікоў і іншых пасажыраў аповедамі пра салдацкае жыццё-быццё.

Урачыстае ўручэнне „Юбилейной медали 50 Лет Победы в Великой Отечественной войне 1941-45 г.", якую падпісаў прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Барыс Ельцын, пачнецца ў гайнаўскім „Гурніку" ў адзінаццаць. Спачатку ўсім уручаць білеты да медаля. Вялікая зала поўная ветэранаў і гасцей, аж гудзіць, з усіх бакоў чутна беларуская мова. Каля мяне, у першым радзе, разглядаюць свае білеты Антон Сідарук і Аляксандр Назарка.

— Я распачаў сваю вызваленчую вайну каля Бранева, — успамінае сп. Аляксандр. — Вызвалілі нас з няволі, а на трэці дзень далі аўтамат у рукі. Канец вайны застаў нас пад чэшскай мяжою. Адтуль мы рушылі па Еўропе цераз Чэхаславакію, Аўстрыю, Венгрыю, чатырыста кіламетраў за Будапешт. Адтуль адправілі нас дадому, але паколькі на дакументах не было напісана, што дэмабілізаваць мяне ў Польшчу, давялося яшчэ год служыць у Савецкай Арміі, пакуль цераз Маскву не дайшлі паперы, што я — грамадзянін Польшчы.

— А нас мабілізавалі на японскі фронт, — ціхім голасам расказвае сп. Антон. — Японія капітулявала, а нас адправілі ў Берлін, і мы год ліквідавалі гітлераўскія ваенныя запасы, вывозілі магазіны, пільнавалі іх, сапёры ўсё размініроўвалі. Быў я м.інш. у Дэсаў над Эльбай. Дадому вярнуўся 20 кастрычніка 1946 г. Не вельмі хацелі мяне пускаць у Польшчу, прапанавалі застацца ў арміі. Аж урэшце мой бацька праслаў пасведчанне, што я — грамадзянін Польшчы. Межы былі ўжо стабілізаваны, і на аснове прыказу Сталіна ўсіх палякаў дэмабілізавалі на радзіму...

Сёння 83 асобы маюць атрымаць медаль. Салдаты Савецкай Арміі, І і ІІ дывізіі Касцюшкі. Па чарзе будуць падыходзіць: Шыман Мацута, Анастасія Бакун, Вольга Бяляўская, Вера Баравік... Віктар Чамярыс з Макаўкі, Мікола Келбашэўскі са Скупава, Павел Бортнік са Свінароя, Міхал Кандрацюк з Крыўца... Васіль Рубчэўскі з Нараўкі... Не ўсе могуць сёння быць — вось Мікалай Турык з Гайнаўкі ляжыць у бальніцы. Пажылыя ж сёння тыя людзі, што паўстагоддзя таму білі фашыста. А для дам — да медаля і кветачка. Якія ж яны святочныя, якія ж маладыя — і Надзея Кірылюк з Дубіч-Асочных, што пасля вызвалення з прымусовых работ у Прусіі трапіла на японскі фронт, і Мар'я Сцепанюк з Арэшкава-Альшынкі, што ў Кёнігсбергу ў шпіталі служыла...

Прысутнічаюць госці — прадстаўнікі расейскага пасольства, уладаў ветэранскіх арганізацый, горада, гміны, Польскага Войска. Барыс Шчарбакоў з расійскага пасольства выступае ад імя сябе і ўсяе Расіі.

— Святкуем 50 гадавіну перамогі над фашызмам не толькі мы, — кажа. — Сёння па-рознаму ацэньваецца гэтая перамога. Для вас было ясна: ёсць германскі фашызм, трэба яго знішчыць, выйграць вайну. У нашага ўрада няма ніякіх сумненняў, хто выйграў вайну, хто перамог ворага, і наш урад рашыў неяк ушанаваць гэты ваш подзвіг. Вы можаце мець *сатысфакцыю*, што ваш акт давёў да перамогі, і была збудавана такая палітычная сітуацыя ў Еўропе, якая была эпохай міру. З другога боку



— гэта ж медаль вашай нялёгкай маладосці. Наш урад можа вельмі сціпла адзначыў ваш уклад у перамогу, і не ідзе за ім ніякая матэрыяльная падтрымка... Але сітуацыя ёсць такая, якая склалася... Хочам хоць так падзякаваць вам за ўдзел у вызваленні Еўропы ад нямецкага фашызму.

Ядвіга Рудзіньска-Патэюк, бургамістр Гайнаўкі, шчыра дзякуе за запрашэнне на ўрачыстасць.

— Гэта вялікі гонар быць госцем на такім свяце, — кажа яна. — Ваша пакаленне было пастаўлена перад вельмі істотным выбарам, а частка з гэтага пакалення ў сапраўднасці яго не мела. Ваша пакаленне было прымушана стаць твар у твар з насіллем і тэрорам у Еўропе. Ваш салдацкі подзвіг, ваша ахвяра далі вынік — забяспечылі наступным пакаленням мір у Еўропе. Сярод нас, жывых — душы тых, што адышлі, што не вярнуліся з бою, і кожны з нас успамінае тых, каго тут няма. Вядома, нашай сустрэчы могуць спадарожнічаць розныя сумненні, а можа і горыч, таму што да чалавечага подзвігу, ахвяравання, жыцця ўводзіцца палітыку. Палітыку, якая не заўсёды справядлівая, аб'ектыўная. Пра пэўныя факты не памятаецца, лічыцца іх за небылыя. Але ў кожнага з вас павінна быць свядомасць, што гэта спраўка толькі кан'юнктуры, махінацый палітыканаў, ідэалогіі, якую датычаецца да вялікай ахвяры чалавечага жыцця. Таму можа вас хваляваць пачуццё, што за тую вашу ахвяру сустракае вас недастатковае ўшанаванне. А ваша ж пакаленне падымала нашу краіну з папялішчаў, будавала новае жыццё — ваш пачын не скончыўся з апошнім выстралам другой сусветнай вайны, каб наступныя пакаленні жылі ў, па меры магчымасці, прыстойных умовах і бяспечнай рэчаіснасці.

Закончыў мерапрыемства ад імя свайго і калег Міхал Кучка, ваенны інвалід, падзякаваўшы ўсім — і ўдзельнікам, і ўладам за ўшанаванне, і Ельцыну, „że zadbał o nas, że ruszyło sumienie"...

— У нас няма ўжо дзяржавы, ад імя якое білі мы фашыста, няма тае арміі, якое мы былі часткай, і нас цалкам зганьбілі гісторыкі, акрэсліваючы нас „zbrodniczą armią". Ці нам такое не баліць?! Нас, што пабілі заразу Еўропы, вызваліцеляў, так прыніжаюць! Не ўспамінаюць нашых страшных перажыванняў. Нікому не жадаем, каб перажываў тое, што нам прыйшлося. Мяне самога, з 219 дывізіі 766 Смаленскага палка, канец вайны застаў у шпіталі. Хто не перажыў таго пекла, не можа гэтага ўявіць, адчуць. Калі я ўбачыў, перакрочыўшы мяжу Польшчы, што дзеці ўжо ходзяць у школу — вялікая радасць аж зняла дух. І вось праз 50 гадоў нашы дзеці нас ганьбяць! Мы адчуваем вялікую крыўду. І вось так, гледзячы на гэтую адзнаку, якой так ушаноўвае нас Расійская Федэрацыя, уздыхаем: значкоў нам далі няма́ла, але ў новай палітычнай сістэме, капіталізме, добра было б, калі б нам, старым, далі да іх нейкае фінансавае ўзмацненне. Хоць бы 10 тысяч злотаў. Так, як гэта робіцца ў заходніх арміях. Няма тае дзяржавы, і наша армія перастала існаваць! Дзякую нашым уладам, і ўладам Расіі за гонар!

**Міра Лукша**
**Фота аўтара**

16-я нядзеля пасля Пяцідзесятніцы

# ПРЫТЧА ПРА ТАЛЕНТЫ

*(Матф., 25:14—30)*

У 25-м раздзеле Евангелля паводле Матфея прыводзіцца прытча пра гаспадара і слугаў. Гаспадар, выязджаючы, даручыў слугам розныя сумы грошай. Той, што атрымаў пяць талентаў, пусціў іх у абарот і прыдбаў наступных пяць. Гэтак жа паступіў слуга, які атрымаў два таленты. Толькі трэці слуга, які атрымаў адзін талент, закапаў яго ў зямлю і аддаў гаспадару, калі той вярнуўся дамоў. Гаспадар пахваліў руплівых слугаў, якія зрабілі добры ўжытак з даручаных ім грошай, трэцяга ж слугу зганіў за лянота і нядбайнасць. Ён загадаў забраць слугу той адзіны талент і даць яго таму, хто меў іх дзесяць. „Бо ўсякаму маючаму будзе дадзена і прымножыцца, а ў немаючага і тое, што мае, будзе ўзята", — сказаў евангельскі гаспадар.

У старажытнасці талент — гэта прыблізна трыццаць кілаграмаў золата, вялізны капітал і тады, і цяпер. У пераносным сэнсе прытча звяртае аднак увагу не на грошы, але на духоўныя дараванні, на творчае скарыстанне іх. Евангельскі „талент" грошай паслужыў у гутарковым ужытку стварэнню паняцця „закапанай" здольнасці страчанага шанцу зрабіць у жыцці нешта карыснае. Кожны чалавек без асаблівай заслугі са свайго боку атрымаў нейкі талент, здольнасць выконваць рэчы, якіх іншыя ніколі не здолелі б навучыцца. Адзін мае „залатыя рукі", іншы вылучаецца інтэлектам, нехта іншы ў спорце, мастацтве або іншай галіне. Звычайна ў такіх выпадках гаворым, што гэтыя людзі проста маюць „талент".



*Царква ў Стрыках.* **Мал. Б. Рудкоўскага**

Чалавеку сапраўды даручаецца выкананне нейкага задання і дзеля гэтага даюцца неабходныя сродкі. Аб гэтым перакананы быў Апостал Павел, які лічыў, што ў Бога ёсць нейкі план адносна кожнага чалавека, што ўсе мы створаны „на добрыя ўчынкі, якія Бог загадзя прызначыў нам выканаць" (Эф., 2:10). Калі Мікеланджэла прыступаў да працы над вялізнымі фрэскамі, сябры папярэджвалі, што на гэтае ён можа страціць усё сваё жыццё. „А на што ж іншага дадзена мне жыццё", — адказаў вялікі мастак. Усе здольнасці — патэнцыянальная магчымасць: яны могуць быць развітыя і ўдасканаленыя або закінутыя і змарнаваныя. Гэтак жа як у евангельскай прытчы аб'ектыўна не ўсім створаны аднолькавыя магчымасці. Чалавек адказны не за тое, што атрымаў менш ці больш здольнасцей, але за тое, як скарыстаў дадзеную яму магчымасць, колькі дзеля гэтага прылажыў асабістага намагання.

Альберт Эйнштэйн паўтараў, што ўсе свае навуковыя дасягненні толькі ў пяці працэнтах заўдзячвае таленту; астатнія 95 працэнтаў — інтэнсіўнай працы. У школе ён сапраўды быў вельмі пасрэдным вучнем, затое да самой смерці не спыняў напружанай працы.

Агульнавядома, што Моцарт кампанаваў ужо на пятым годзе жыцця, і што меў надзвычайны талент. Ягоны канкурэнт Сальеры кампенсаваў недахоп таленту карпатлівай працай і таксама меў поспехі. Несумненна талент меў і Эрнст Хемінгуэй, але не ўсе ведаюць, што гэты майстар слова неадночы цэлы дзень пакутаваў над адным сказам свайго твора.

Марыя Складоўская і П'ер Кюры абмежавалі да мінімум свае жыццёвыя патрэбы, каб працягваць працу над радыеактыўнымі элементамі. Працуючы ў цяжкіх умовах, з натугай, у атмасферы іроніі, вучоныя не апусцілі рук і канчаткова адкрылі ды апісалі радый і палоній.

Евангельская прытча пра таленты экспануе неабходнасць працы не як праклянцця і пакарання, але як фундаментальнага прызвання чалавека. „Усё, што б не рабілі, рабіце ад душы, як для Госпада а не для людзей", — пісаў Апостал Павел, які на сваё ўтрыманне зарабляў шыццём палатак. „Хто не працуе, хай і не есць", — заяўляў Апостал і ягонае выказванне паўтарыў нават Уладзімір Ленін. Святое Пісанне прызнае годнасць кожнай сумленнай працы. Калі б адносіны паміж работадаўцамі і працоўнымі асноўваліся на евангельскіх прынцыпах, адны справядліва аплачвалі б працу, а другія сумленна працавалі б. Сацыяльная свабода для рабочага класа з'явілася тады, калі хрысціянскі і дзяржаўны дзеяч у Англіі лорд Шэфтэсбэры ўсё сваё жыццё стаў змагацца за скарачэнне працоўнага дня, павелічэнне заробткаў і лепшае стаўленне да рабочага.

„Любі працу, — гаварыў святы Ісаак Сірын. — Калі нават яна і непатрэбная для твайго ўтрымання, дык можа быць патрэбная як лякарства. Праца — гэта здароўе для цела і карысць для душы". На гэтае заўсёды актуальнае пытанне і звяртае нашу ўвагу згаданы фрагмент Евангелля.

**а. Канстанцін Бандарук**

Якія мы людзі

# ДЗЯДЗЬКА ПАВЕЛ

Амаль усе ў рэдакцыі ведалі дзядзьку Паўла Сайчыка, які даволі часта наведваў нас. Ну, не мог ён абмінуць гэты будынак, калі быў побач, і не зайсці ў „сваю газэту". Сакратарка Геня спяшалася тады заварыць яму чай, а ён, як бы звысока, што яшчэ можа ў свае амаль дзевяноста, казаў: „Ну, калі ўжо частуеце, дык папрашу каву!"

Ніхто ніколі не пытаўся пра яго колішняе жыццё, а ён хацеў быць такім, якім бачылі яго людзі, і ніколі нічым не хваліўся.

Дзядзька Павел паявіўся ў Беластоку ў сорак пятым, з першай хваляй рэпатрыяцыі. А што было яму рабіць, сыну багатага на ўсю ваколіцу млынара з-пад Баранавіч? Чакаць, пакуль адправяць на Усход?! У трыццаць дзевятым млын, дзе гаспадарыў ён і два браты, ужо быў саветамі канфіскаваны. Дзякуй Богу, што не пабудавалі другога млына ў Тугановічах (так, тых самых, адкуль была Міцкевічава каханая — Марыля Верашчака), а ўжо ж усё было падрыхтавана. Павел Сайчык, чакаючы вывазкі ў Сібір, на якую была прызначана яго сям'я, працаваў у нейкім бюро ў Карэлічах. І тады пачалася вайна.

Едучы першым рэпатрыяцыйным транспартам у Польшчу, дзядзька Павел меў пры сабе маладзенькую жонку, з якой жаніўся на пару месяцаў перад вайной, і дзве гарошынкі-дачушкі. Выйшлі на першай станцыі, у Беластоку. Тут, цешыўся дзядзька Сайчык, была яшчэ Беларусь. Тут жылі свае людзі. І тут пачыналі ўсё нанава, бо прывезлі з сабою адно вышываную пасцель, ды тое, што маглі ўкінуць у кішэнь. А пакінулі дом, у якім ужо змяшчалася школа, ды мэблю, якую рабілі па заказу, „на ўсё жыццё".

Хто ведаў дзядзьку Сайчыка, не мог надзівіцца, як цудоўна спалучалася ў гэтым чалавеку нязвыклая працавітасць і беззаганныя манеры, такт. Хто як хто, але ён мог бы мець тыя ці іншыя прэтэнзіі да ўлады. Але ж не! Наадварот, злавала яго і абурала, калі здаралася пачуць у кампаніі, як нашчадкі нашых гаротнікаў-мужычкоў — сённяшнія інтэлігенты паплёўвалі на сацыялізм і народную ўладу, дзякуючы якой яны, між іншым, маглі сядзець з ім за адным сталом. Хтосьці з бяседнікаў мог паставіць такога „інтэлігента" на месца, напомніўшы яму, што калі б не гэтая ўлада, дык са сваім беларускім радаводам „цягаў бы ён сёння ў Польшчы карову за хвост". Але дзядзька Павел сказаць гэтак не ўмеў. Быў занадта далікатны. Усе людзі роўныя, паўтараў ён не раз, і цешыўся, што іхні былы парабак Андрэй ездзіць сёння на ўласнай „Волзе".

На Беласточчыне дзядзьку было добра, бо тут ён быў амаль сярод сваіх. Тут абсталяваліся і два яго браты. І толькі адзін раз, ужо на парозе васьмідзесяцігоддзя, Павел Сайчык з'ездзіў да сястры ў Канаду. Сустрэў там шмат сваіх сяброў з маладосці. Нават крыху папрацаваў. Не саромеўся адрамантаваць тут і там дах, памаляваць кватэру. Долар тады яшчэ быў у нас у цане! Як вялікі падарожнік, але з радасцю вярнуўся дахаты. Тут было найспакайней. Тут мог сабе памайстраваць „для духа" у сваёй сталярані, пакорпацца ў агародзе.



*Павел Сайчык.*

Аж да гэтага года апрацоўваў агарод (што пры вуліцы Міцкевіча). Сам ускопваў зямлю і садзіў кусты, сам збіраў плады. Агарод у горадзе быў для яго вялікай радасцю з таго часу, калі адышоў на пенсію з бюро „Społem". Дзецям і ўнукам — лекарам ніколі не хапала на гэта часу, а жонка займалася домам.

У рэдакцыю апошні раз прыйшоў па кніжку Янкі Максімюка. Па радыё пачуў, казаў, што выйшла кніжка пра беларускае школьніцтва ў Германіі. Мусіў мець гэту кніжку. Купляў усё цікавейшае з таго, што выдавалася ў нас. У пятніцу заўсёды пасылаў у кіёск па „Ніву" суседскага хлапчука Янку. Прыемна было даць малому дзесяць тысяч, каб купіў „Ніву" за пяць.

А ў апошнюю пятніцу перад Спасам хлопец не зарабіў на марожанае. Яшчэ ў чацвер дзядзька Павел быў на рынку, купіў памідораў і яблыкаў „проста ад селяніна, ніякія не галендэрскія", а ў пятніцу раніцай апрануўся быў у гарнітур, каб ісці з суседам на агарод ля хаты, як схапіў яго інфаркт. Тры гады ўжо, праўда, хадзіў з ушытым стымулятарам, які дапамагаў працаваць яго сэрцу, але быў такі жыццядольны, што ўсім ужо здавалася, быццам дзядзька Павел вечны.

У бальніцы дзядзька акрыяў. Калі наведалі мы яго ў пятніцу вечарам, бедаваў пра адно: што не купіў „Ніву". Чытаў я, кажа, чытаў пра тваю дзікую качку і сабаку... І інтэрв'ю з бацюшкам Рыгорам Сасною — ад корачкі да корачкі. Падумаць толькі, і ёсць жа такія людзі!

Дзядзька Павел не збіраўся ляжаць у бальніцы доўга. Ну, шэсць гадзін, казаў, не больш. Пралежаў амаль трыццаць шэсць. Памёр на дзевяноста першым годзе жыцця, вечарам на Спаса, нікому не дакучаючы і не мучачыся доўга.

У бальніцы ляжаў элегантны, як заўсёды: аголены, у гадзіннікy і зубных пратэзах. У пятніцу вечарам, адняўшы ад рота кіслародны апарат, узяў у рукі маю руку і моцна, сардэчна пацалаваў.

Апошняй яго просьбай было прынесці ў бальніцу свежую „Ніву" і адну з сямі лупаў, пры дапамозе якіх аблягчаў сабе чытанне.

Дзядзька Павел ніколі не адрокся ад свайго. Веру, што зямля яму напэўна будзе пухам.

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**

# Развеяны сумненні

10 верасня г.г. пайшоў я на сустрэчу-мітынг з кандыдатам на прэзідэнта РП Аляксандрам Квасьнеўскім, які адбываўся на дзядзінцы Медыцынскай акадэміі ў Беластоку.

На сустрэчу з А. Квасьнеўскім прыйшлі ягоныя прыхільнікі, раўнадушнікі і ворагі. Тых апошніх была невялікая група, але вельмі крыклівая і... баязлівая. Яны атрымалі ад палітычных канкурэнтаў па дзесяць новых злотаў, каб пахмяліліся і далі жару праваднику СЛД, а тыя паставалі ўроссып далёка ад мітынгу, ды адзін на аднаго паглядае. Аляксандр Квасьнеўскі ўсё гаворыць, народ пляскае ў далоні, а аплачаныя „героі" ніяк не адважацца нешта абразліваа выгукнуць у бок кандыдата. Прытым не ведаюць яны, колькі той будзе гаварыць, бо мо зараз закончыць сваё выступленне і іх заробак прападзе. Вядома, што ніхто грошай дарма не дае, дык трэба загад выканаць, але хіба не было каму пачаць. Тады нейкі баязлівы хлапчук падышоў да старога, добра выпіўшага абадранца ў зімовай шапцы на галаве і цвёрда сказаў: „Цо, курва мільчыш, жэ дармо досталэсь ствуэ?" (такім спосабам я даведаўся, колькі ім плацілі). Тады п'яны прахрыпеў: „Прэч з кажамунай!" Тыя, хто блізка стаяў, аглянуліся і зарагаталі, а ён здубекаўся. Пасля групка хітрунаў-баязліўцаў пачала падтрымоўваць п'янага такімі вось словамі: „зладзеі", „прэч з камунай", „жыды да газу", „Штольцман, Штольцман". А калі ўжо адчулі салідарнасць сваёй групкі, дык свістам пачалі перашкаджаць у прамове. Але Квасьнеўскі не збіўся з панталыку, адвярнуўся да іх і сказаў: „А загвіждждце се на амэн!" і далей рабіў сваё.

Пасля мітынгу наёмныя свістуны разбегліся, а раўнадушныя, з якімі я гаварыў, адказалі мне, што цяпер ужо не сумняваюцца на каго галасаваць. І куды пхае грошы правая канкурэнцыя? На Квасьнеўскага!

**Васіль Петручук**

PS. Я чарговы раз з вуснаў прэзідэнта Валэнсы даведаўся, што Польшча з'яўляецца аднанацыянальнай і аднарэлігійнай краінай. Ці мо ўжо падрыхтаваныя езуіцкія дэкрэты на выпадак ягонай перамогі ў выбарах? Ці ж гэта не сталінска-геркаўская ідэалогія?

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

**Частка XXVIII**

Сёння пазнаёмлю чытачоў з апошнім фрагментам выказванняў майго бацькі аб яўрэях. У наступных адрэсах перайду да яго разважанняў аб іншых аспектах радзімы.

„Калі гэто для цябе цікаво, то я табе яшчэ хацеў бы тое-сёе сказаці пра жыдоў. Я ўжэ табе гаварыў пра тое, што нашы людзі грабілі жыдоўскі кварціры, калі немцы іх пазаганялі за дрот. Ну, то ты ўжэ знаеш, што я ні хацеў купляці таго жыдоўскаго дабра, што людзі тут нам на вёсках прадлагалі. Але ўсё ж такі адна жыдоўска рэч у нас у хаці паявілася. Хоць я і сказаў старой (маёй маці — АБ), каб яна ні купляла награбленаго жыдоўскаго дабра, то ўсё ж такі яна патаемно купіла. А было гэто так. Аднаго разу зімою, у канцы сорок трэцяго року, быў вельмі сільны мароз. Так было халадно, што я, хоць і прыкрыўсе можэ пяццю радзюжкамі, ні выдзержываў ад холаду. Раптом чую, што старая сцягае з мяне ўсе радзюжкі і прыкрывае чымсь вельмі лёгкім і мягкім. І мне так зрабілася цепло, што я, ні паняўшы ў чым дзело, зараз узяў і заснуў. Калі прачнуўсе, убачыў, што я прыкрыты пярынаю, каторае ў нас у хаці ніколі ні было. Тады я давай пытаці старую, скуль, значыцца, узяла пярыну. А яна крэнту-вэнту ўзяла і прызналася, што купіла ад нараўскага гандляра жыдоўску пярыну. Я крыху яе палаяў, але мало. А то таму, што гэта пярына не толькі была прыятна, лёгка і цёпла, што я ніколі чагось такого ні бачыў. Ну, бачыш, якія гэты жыды разумны былі. Мы ж штороку рэзалі і гусі, і качкі, і куры, але ніколі нават і ні падумалі, што з іх можно пярыны рабіці. Подушкі то рабілі, але пярынаў то ніколі ні рабілі і пер'е за бэсцэн прадавалі жыдам з Нізбодкі, з Нараўкі, з Ялоўкі. І так рабілі ўсе ў нашых вёсках. То от бачыш, як жыды навучылі нас розуму. Я сказаў старой: „Ад гэтаго часу ні смей нават жменькі пер'я прадаваці. Дзяржы яго і рабі пярыны". Ну і так яно і сталасё. Прывыклі мы да пярынаў і цяпер то ўжэ нікого пад радзюжку зімою ні зажэнеш.

Ну, а што касаецца жыдоў, то я табе скажу яшчэ, што яны вельмі дзіўна захоўваліся за саветаў. Як прышла савецка ўласць у 1939 року то раптам усе гэты нараўскіе, ялоўскіе і нізбодзкіе Бэркі, Іцкі, Поўшкі, Абрамы зрабіліся савецкімі начальнікамі. Пакідалі свае лаўкі і сваё рэмесло і ўсе сталі інструктарамі. А то інструктар ад звёнзкоў завадовых, а то інструктар ад медыцыны, а то інструктарам НКВД, а то інструктар парційны, а то інструктар гандлю. Усе гэты лавачнікі, рэзнікі, шаўцы, краўцы, хамонтнікі парабіліся інструктарамі. Ну я панімаю, што інструктарамі ад гандлю то яны маглі быці, бо ніхто так ні панімаў гэтае штукі як яны. Але — медыцына, парція, звёнзкі завадовы, НКВД?! Гэтаго то я ні мог ніяк паняці. Ну, а найбольш смешно то было тое, што яны парабілісе таксамо інструктарамі ад ральніцтва. Калі ў Новуй Волі закладалі калхоз, то туды жыды перлі кажды дзень і ўсё радзілі, як трэбо добрэ гаспадарку весці. А яны ж на гэтум ральніцтве то ні чарта ні панімалісе, бо самы то ніколі ні гаралі, ні сеялі, ні жалі. Ты знаеш, аднаму нараўскаму жыду, катораго я добрэ знаў, то я сказаў адкрыто: „Абрам, ты быў добрым майстром і добрэ скуры вырабляў, але ў ральніцтве то ты ж нічого ні разбіраешся. То які з цябе рольны інструктар?"

А знаеш што ён мне сказаў на гэто? А сказаў так: „Андрэю, чаму ты думаеш, што я нічого ні панімаю з ральніцтва? Я ўсё панімаю. Я выраблаў скуры каровячы, цялячы і авечы? Выраблаў. Выраблаў скуру на хром, на падошвы і на кажухі? Выраблаў. Ну а каровы, цяляты і авечкі дзе жылі, у гарадах чы ў вёсках? У вёсках. Ну то як, Андрэю, чы я маючы дзело з каровячымі, цялячымі і авечымі скурамі меў дзело з ральніцтвам, чы не меў? Меў. То чы я надаюся на рольнага інструктара, чы не надаюся? Надаюся, Андрэю... Я буду лепшы інструктар, чым якісь рускі п'яніца. Можэ ні памагу, але і ні пашкоджу".

Калі так разабрацца, то ён меў рацыю. Бо вядомо ж, што мужыкі зналі як гараць, сеяць і жаць, і ніякі інструктары ні былі ім патрэбныя. Ну то якая розніца, чы гэтым інструктаром быў жыд, чы ні жыд, адзін чорт.

Ну, а што касаецца жыдоў увогуле, то я табе скажу, што гэто разумны людзі. Намного разумнейшы, чым беларусы і таму трэбо прыглядацца да іх і рабіць так, як яны робят. Я ні знаю, чым там у вас у універсітэці ест жыды. Калі толькі ест, то з імі, барані Бог, ні сварысе. Жыві з імі ў згодзі і прыглядайся да таго, як яны робят і паступают і ты так само рабі і паступай. Я тут як слухаю радзіво то там усё гаворат, што жыды кепскі, а арабы добры, і што ва ўсім жыды вінаваты, а ні арабы. Я то ні знаю як там ест напраўду, але мне здаецца, што Польшча то павінна жыдоў трымацца, а ні арабаў. То ж жыды моцно сідзят на цэлым свеці. У іх руках і банкі, і капітал, і медыцына, і гандэль, і наука. А што маюць на свеці арабы? Яны ж толькі качэўнікі на пустыні. Па-моему, трэбо з жыдамі разом дзяржацца, а не з арабамі. А вогуле то жыды разумны, а карыстаеш ад разумных, а ні дуракоў, і таму трымайсе жыдоў. Але ўважай, бо жыд то можэ так упечы, што аж падскочыш. Прыглядайся да іх, але і свой розум май. Ну а кроме гэтаго ўсяго то ў нас з жыдамі была тут спульна родзіна".

**Алесь Барскі**

# З народных песень

**Шаноўная Рэдакцыя!**

Прыпомнілася мне песня пра бульбу, якую калісьці спявалі ў Беларусі. Сапраўды, там, дзе не было бульбы, панаваў голад. Дасылаю тэкст і ноты гэтай песні, каб прыгадаць чытачам, як трэба любіць і шанаваць бульбу — аснову харчавання на вёсцы.

**брат Браніслаў Кавэцкі,**
Катавіцы

## Бульба

Гарні, гарні бульбу з печы
У торбачку ды на плечы.
Бульбу пякуць, бульбу вараць,
Бульбу ядуць, бульбу хваляць.
Траля, ля, ля, ля, ля, ля.
Бульбу ядуць, бульбу хваляць.
Траля, ля, ля, ля, ля, ля.
Ля, ля, ля, ля, ля, ля, ля.

Ці вяселле, ці хаўтуры,
У нашых дзевак у натуры
Рабіць з бульбы таптуны
І пячы з бульбы бліны.
Траля, ля, ля, ля, ля, ля.
І пячы з бульбы бліны.
Траля...

У будні дзень із бульбы вараць
І лянуху, і булёны,
Таўкуць бульбу на катлеты,
Вараць з бульбы макароны.
Траля, ля, ля, ля, ля, ля.
Вараць з бульбы макароны.
Траля...

А ў нядзелю і на свята
Вараць клёцкі з бульбы, бабкі.
І гарэлка з бульбы крэпка.
З бульбай можна жыць багата.
Траля, ля, ля, ля, ля, ля.
З бульбай можна жыць багата.
Траля...

З бульбы робяць саладуху,
З бульбай жыць ды пажываці.
Няма бульбы — голад у дому.
Жабраваць ці паміраці?
Траля, ля, ля, ля, ля, ля.
Жабраваць ці паміраці?
Траля...

Har-ni, har-ni bul-bu z pieczy u tor-bacz-ku dy na ple-czy
bul-bu pia-kuć, bul- bu wa-ruć, bul-bu ja-duć, bul-bu chwa-luć
Tra-la, la, la, la, la, la. Bul-bu ja-duć, bul-bu chwa-luć
Tra-la, la, la, la, la, la. La, la, la, la, la, la, la!

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Мне прысніўся вельмі страшны сон. Быццам бы маёй маме адрэзалі руку. Роўненька, амаль ад шыі — цэлую руку. Крыві пры гэтым, аднак, не было. Я ў сне і на яве вельмі перапужалася. Справа ў тым, што ў нас ёсць вельмі хворы сваяк, хаця ён яшчэ зусім малады чалавек. Гэта надта блізкая нам асоба (мамін зяць — мой швагер), і таму мы з мамай вельмі непакоімся, ці не пагоршае часам яму. Вядома, я пра сон расказала маме, а цяпер шкадую. Яна ўсё плача па ім. А мо гэты сон датычыць маёй мамы ці мяне? Напішы, Астроне!

**Ганна**

Ганна! Твой сон прадвяшчае небяспеку. Не абавязкова мусіць ён датычыцца цябе ці тваёй мамы. Можа якраз прадвяшчаць пагаршэнне стану здароўя ці нават смерць вашага сваяка. Якраз жа прыснілася табе, што маці ампутавалі руку — пазбавілі яе часткі арганізма. А ці ж зяць — гэта не істотная частка сямейнага арганізма? Вось бачыш жа, нават крыві пры тым адразанні рукі не было — значыць, не будзе гэта небяспека датычыцца сваяка па крыві. А зяць жа — ён і ёсць блізкі, але не кроўны.

Дай Божа здароўя вам усім: табе, маме і вашаму сваяку!

**АСТРОН**

# ВІРАВАНКА

1. дваранскі тытул між графам і герцагам, 2. эстрадны танец з непрыстойнымі рухамі цела, 3. вайсковае званне малодшага камандзіра, 4. касмічная машына, 5. аддача ў доўг, 6. важны сустаў, 7. калючая зброя з выгнутым лязом, 8. паўвостраў у Амерыцы, 9. ліхаманка, 10. боепрыпас, 11. ранак.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 33 н-ра**

**Гарызантальна:** КПЗБ, санет, астрог, Адэн, карта, Гавана, абляпіха, кобра, Шарашова, мадрыгал, Авель, перазовы, бузіна, агонь, мора, парода, адрыў, Ніна.

**Вертыкальна:** малако, Нестар, Падляшша, Бангі, атава, жорны, абарыген, Ахматава, Комі, бяда, поле, баль, алізарын, выгада, ландыш, бурак, пірог, Раман.

Кніжную ўзнагароду высылаем Мікалаю Сазановічу з Навінаў Вялікіх.

<u>Народны каляндар</u>

## КАСТРЫЧНІК

Ліст на дрэвах жоўты, але доўга трымаецца — маразы прыйдуць не скора.
Хуткі лістапад — суровая зіма.
У кастрычніку снег — толькі на грэх.
Кастрычнік ходзіць па краю і гоніць птушак з гаю.
Снег 8 кастрычніка абяцае ўсталяванне зімы ў канцы лістапада.
Гром у кастрычніку — зіма бясснежная.
У кастрычніку на адной гадзіне і дождж і снег.
Хто не дасее да Івана Багаслова, той не варт добрага слова.
Іван Багуслаў дружак разаслаў. *(Пачыналіся восеньскія сватанні і вяселлі.)*
На святога Францішка шукае зярнят у полі мышка.
Пакровы пакрываюць траву лістом, ваду лёдам, а дзяўчат шлюбным чэпкам.
Які Пакроў па надвор'і — такая будзе і зіма.
На Пакрова дождж — на наступны год пчолы збяруць многа мёду.
Пакрова — да хлява карова.
Не пакрыла Пакрова зямлі снегам, не пакрыюць і Каляды.
Хто сее азіміну на Лукі — той не будзе мець ні хлеба, ні мукі.
Многа яловых шышак — на ўраджай ярыны.
Асенняя шэрань — да сухога і сонечнага надвор'я.
Калі ліст з бярозы і дубу апаў чыста — лёгкі год, не чыста — цяжкая зіма.
Кастрычнік зямлю балоціць, лес залоціць.
Позні асенні гром — позні снег.
Калі дождж пайшоў з сярэдзіны дня — зацягнецца надоўга.
Ліст, ападаючы з дрэў, кладзецца ніцма — наступны год будзе ўраджайны.

*Падборку зрабіў*
*Янка Целушэцкі*

# Пекла

— Ой, дачанька мая, што ж ты вырабляеш! Па цэлых начах цягаешся па гэтых дыскатэках і забавах. Ты грашыш і людзей смяшыш. То ж ты з пекла не вылезеш, як так будзеш рабіць.
— Мама! Пекла няма.
— А куды ж яно падзелася?
— Пекла згарэла і цяпер ужо яго няма.
— А чаму няма?
— А таму, што чэрці старога не застрахавалі і новага не пабудавалі.
Ну, вось, і пагавары з ёю: гаворыць, што пекла згарэла... То ўжо можна і грашыць! Нядобра будзе, калі вы маладыя так будзеце гаварыць і рабіць. Я калісь, як была маладая, то так не гуляла, як цяпер вы: сорам нейкі быў і чалавек грэху баяўся. А цяпер ніхто нічога не баіцца; вось якія часы насталі!

**Аляксандр Барташэвіч**

## Варта ведаць, што...

... большасць птушак у канцы лета і восенню адпраўляюцца ў працяглыя падарожжы да месц зімовак. Гэтыя штогадовыя вандроўкі называюцца сезоннымі міграцыямі. Кожны від птушак робіць пералёты ў пэўныя тэрміны.

Шпакі ў час асенніх пералётаў дасягаюць у пачатку кастрычніка Бельгіі, у канцы месяца — Францыі і Італіі, а ў лістападзе — Іспаніі, зімуюць на поўдні Еўропы, а таксама ў Тунісе, Марока. Дразды на зімоўцы сустракаюцца на ўзбярэжжы Міжземнага мора (Італія, Францыя, Алжыр).

Буслы, ластаўкі, чаплі і стрыжы на зіму адлятаюць у Афрыку, дасягаюць Конга, Зімбабве, Эфіопіі.

Гракі знойдзены на зімоўцы ў Бельгіі, Галандыі і Германіі.

Птушкі кожнага віду ляцяць па-рознаму. Быццам цёмныя хмары пралятаюць вялікімі шчыльнымі чародамі берасцянкі. Касяком пралятаюць гусі, косым шнурам — лебедзі. У адзіночку адлятаюць ястрабы, зязюлі, лелякі. Даўно ў дарозе ластаўкі. Зімуюць яны за 2—2,5 тысяч кіламетраў ад месц свайго гнездавання, пераважна ў краінах Заходняй Еўропы.

**(яц)**

## Хто нарадзіўся ў кастрычніку

1. Назіральны, гарманічны — праяўляе такт і дыпламатыю.
2. Трапна акрэслівае характар людзей і ўмее з імі садзейнічаць.
3. Уладны, упэўнены ў сваіх паступках — прыхільнік усяго новага.
4. Мірна настроены, дасціпны — знаток мастацтва.
5. Марыць пра далёкія падарожжы.
6. Славалюбівы, самастойны — бесстаронні суддзя.
7. Імкнецца да дасканаласці і выдзяляецца сваімі здольнасцямі.
8. Любіць гульні, забавы — не любіць лісліўцаў.
9. Ураўнаважаны ў сваіх паступках.
10. Быстры, тонкі, дасканала арыентуецца ў тым, што вакол яго.
11. Ахвотна дапамагае ўсім, хто патрабуе дапамогі.
12. Пераймаецца лёсам сваіх блізкіх.
13. Адораны фантазіяй і праяўляе зацікаўленне літаратурай.
14. Імкнецца да магутных спраў.
15. Праніклівы, настойлівы — прагне кіраваць іншымі.
16. Сур'ёзны і глыбокі, мае вялікі ўплыў на сваё асяроддзе.
17. Цікавіцца ўсім незвычайным і таямнічым.
18. Здабывае кар'еру толькі сваімі ўласнымі сіламі.

*Падрыхтаваў Янка Целушэцкі*

## КАСТРЫЧНІК...

...дзесяты месяц каляндарнага года, апошні месяц вегетацыі большасці раслін. Назва паходзіць ад кастрыцы — адзеравянелай часткі лёну (польскі **październik** бярэ пачатак ад слова **paździerze** — таксама кастрыца), літаральна месяц ачысткі льну. Сучасная руская назва октябрь паходзіць ад лацінскага **october** — восьмы месяц.

У параўнанні з вераснем тэмпература паветра паніжаецца на 5—6°C і ў сярэднім складае 5—7,5°C. Колькасць дзён з ападкамі 12—17. Ахаладжваецца зямля. Адносная вільготнасць паветра ў кастрычніку складае 82—86%.

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**
Старшыня Праграмнай рады — Варвара Пякарская

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1996 r. upływa 20 listopada 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,30 zł (13 000 st. zł), a kwartalnie — 16,90 złotych (169 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

## Смех у санаторыі
### або „Даўціпы" з альбома Андрэя Гаўрылюка

— Табе ўжо трыццаць гадоў і ўсё яшчэ ходзіш халасцяком...
— Бо калі прадстаўляю маці нейкую нарачоную, заўсёды ёй не падабаецца.
— Дык знайдзі дзяўчыну падобную на яе.
— Знайшоў.
— І што?
— Не спадабалася бацьку.

* * *

Суддзя да падсуднага:
— Вы звольнены ад абвінавачання ў бігаміі; можаце вяртацца дадому.
— Выбачайце, а да каторага?

* * *

— Чаму Варка не выходзіць замуж?
— Чакае на свой ідэал мужчыны.
— А які ў яе гэты ідэал?
— Такі, які з ёю схацеў бы ажаніцца.

* * *

Магда да нарачонага:
— Пасля шлюбу буду дзяліць з табою ўсе долі і нядолі...
— Дзякую; у мяне няма ніякай нядолі.
— Пасля шлюбу будзеш мець.

* * *

На адной выспе стаіць чатырох мужчын. На суседняй выспе загарае голая дзяўчына.
— Паплывем да яе! — усклікнуў дваццацігадовы.
— Найперш трэба збіць плыт, — раіць трыццацігадовы.
— Лепш узяць парадачную лодку, — гаворыць саракагадовы.
— Навошта плысці? Адсюль усё дакладна відаць, — сказаў пяцідзесяцігадовы.

* * *

— Твая жонка якая?
— Такая самая як і іншыя. Гаворыць, што мае наймудрэйшых дзяцей і найдурнейшага мужа.



# НІЎКА

Мал. Леаніда Разладава

## Недаверлівы воўк

Воўк, стаўшы каралём звяроў, вырашыў навесці парадак у сваёй краіне. Спачатку паклікаў ён мядзведзя і стаў допытвацца адкуль у яго такое шыкоўнае футра.
— З дзяцінства яно ў мяне, — не зразумеў мішка.
— Калі б яно было з дзяцінства, — разлаваўся воўк, — тады даўно вырас бы з яго.
Мядзведзя ўкінулі ў яму.
У лісіцы запыталі, дзе яна ўзяла такі каштоўны каўнер.
— З дзяцінства нашу.
— Няпраўда: калі б з дзяцінства, дык даўно выліняў бы.
І яе ўкінулі ў яму.
Потым паклікалі зайца і запыталі: „Чаму ты касавокі?"
Ён таксама стаў тлумачыць пра дзяцінства і ў выніку таксама папаў у яму.
Сядзяць мядзведзь, лісіца і заяц у яме і гадаюць, каго ж яшчэ воўк пасадзіць. І раптам у яму ўвальваецца... качка.
— А цябе за што, шэрая? — пытаюць звяры.
— Дык прычапіліся выявіць, за чые грошы я кожны год у вырай лятаю.

*Іван Сачывец*

## Вегетарыянцы

— Мама, мама! Ты мне скажаш?
— Што табе, Юрачка, сказаць?
— А хто такі вегетарыянец?
— Вегетарыянец, сынок, гэта... Як бы табе прасцей растлумачыць? Ну, напрыклад, Леў Талстой. Ён вялікі пісьменнік і вегетарыянец.
— А чаго ён вегетарыянец?
— Бо нічога скаромнага не ў.
— А што такое „скаромнае"?
— Скарормнае, Юрачака, — гэта сала, мяса, каўбаса і ўсялякія там тлушчы.
— Хіба іх нельга есці?
— Чаму ж, можна.
— А чаму Леў Талстой не еў?
— Не хацеў. Ён усё расліннае еў. А яшчэ рыбу, алей, грыбы...
— Можа, у яго не было за што купіць мяса? Можа, яму талонаў не давалі?
— Было за што. Бо ён быў графам. Быў вельмі багатым.
— Мама! А чаму ты не купляеш мяса і каўбасы? Хіба мы таксама вегетарыянцы?
— Цяпер, сынок, амаль усе вегетарыянцы.
— Не хочуць мяса?
— Хочуць. Яшчэ як. Але грошай няма.
— А чаму?
— Зарплата маленькая, а дарагоўля вялікая.
— А ў Талстога зарплата была вялікая?
— Вось прычапіўся. У яго ніякай не было. Ён граф. Сам сабе гаспадар.
— А мы таксама самі сабе гаспадары?
— Якія там гаспадары? Над намі Вярхоўны Савет, прэзідэнт, урад і ўсякія начальнікі. Яны і камандуюць намі.
— А тыя, што камандуюць, не вегетарыянцы?
— Пакуль што не. Ім хапае.
— А калі яны ўсё паядуць, стануць вегетарыянцамі?
— Ды не, на іх век хопіць.
— А мы доўга яшчэ будзем вегетарыянцамі?
— Пакуль не разжывёмся. Мы з татам, можа, і не дачакаемся гэтага, а ты калі-небудзь яшчэ і мяса будзеш есці, і ўсё іншае...
— Скаромнае, мама? І бульбу, і капусту, і ўсё такое?
— Скаромнае, сынок, не псуе ні бульбы, ні капусты. Толькі смаку дадае. І хопіць ужо. Даядай хутчэй вермішэль, бо застыне і зліпнецца.
— Мама, а Леў Талстой?
— Адчапіся, Юрачка, і бярыся за відэлец. Леў Талстой еў трохі лепш за нас хоць і вегетарыянец.

*З украінскай пераклаў Валерый Бабей*



## Прыпеўкі

А з крыніцы вада льецца,
Бяры, міленькі, на чай.
Як не думаеш жаніцца,
То прашу не прывучай.

Калі любіш, дык любі,
Не кажы нікому.
Цяпер людзі разнясуць,
Як вецер салому.

Колькі печы не паліла
Ды ўсё трэсачкамі.
Колькі хлопцаў не любіла,
Ды ўсё смешачкамі.

Не за то цябе люблю,
Што сарочка белая,
А за то цябе люблю,
Што ў куточку смелая.

— А чаму ты, лысы,
Без валос астаўся?
— Не было расчоскі,
Граблямі часаўся!

Падборку зрабіў
**Янка Целушэцкі**

## СЕНТЭНЦЫІ

Прырода дасканалая,
дык чаму ў ёй толькі слупоў?
*
Пакуль не зразумееш сябе,
судзейскую тогу трымай пад замком.
*
Прыніжанасць любіць крычаць.
*
На краях кожная сярэдзіна залатая.
*
Песіміст ведае толькі тупік.

**Барыс Руско**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мо хоць ты, Сэрцайка, зразумееш мяне, нешчаслівую бабу. Мела я ўсё: дом, мужа, дзяцей. Лічыла на тое, што старасць мая будзе спакойная, бо і сваю працу, і ўсю жыццёвую энергію аддала сям'і. Але сталася інакш.

А была ж у мяне такая гаспадарка, што суседзі зайздросцілі. У хаце заўсёды быў лад і парадак. Сама шкарпэткі, свіцер звязала, памыла нешта сабе і дзецям. Умела, як ніхто ў вёсцы, наварыць і напячы, зрабіць крывянку ці каўбасу. На святы заўсёды збіралася ў нас шмат гасцей.

Клопаты пачаліся, калі дзеці пападрасталі. Ніводнае дзіця не ажанілася і не выйшла замуж шчасліва. Праўда, што мы рабілі гучныя вяселлі, збіралася заўсёды каля 150 асоб, але што з таго, калі пасля неяк жыцця не было.

Але найгорш было з адным сынам. Ну, кажу табе, узяў нейкую заразу, і ўсё. Здаецца, як і пакахаць такую можна было... Ну, на вока дык нават прыгожанькая была. І апранецца — дык як лялька. А што з таго, калі сын галодны хадзіў?! Дык, падумай само, ці ж маці не накорміць! Кажу, прыйдзі сынок, перакусі, з бацькам чарку вып'еш. І яму, і бацьку добра. Ды і мне спакайней, што дзіця ніхто не крыўдзіць. Так-так, не смейся з мяне, Сэрцайка, хоць бы яму і шэсцьдзесят было, а сэрца маці — сэрцам маці.

А ўнукі? Да ўнукаў нас нявестачка не надта дапусціць. Казала ўсё: праз вас мужык і разбалачуўся, дому не прызнае. Або: хай есць тое, што навару; не атруціцца, нябось, бо і мы жывыя. Калі вы ад дзяцей бацьку забіраеце, дык і дзеда-бабы ім не трэба.

Добра было ёй так казаць, калі бацькі ўсё што маглі ёй сунулі. Апранлі як каралеву. Маці ў хатняй працы выручала. Дзяцей пільнавалі. Агарод ёй садзілі. А яна хвастом махнула — і па-йшла на працу ў сваю кантору. А ты, мужык, ідзі пасля працы ў поле, быццам бы ў горадзе не напрацаваўся. Бацькі ўжо старыя, трэба ім там дапамагчы!

А мне шкада было сына. Бывала, пасварацца, дык яна яго да нас выганяла (жылі ў хаце яе бацькоў). Ну, дык што яму было рабіць? Куды падзецца? Валацуга то ён не быў, за дзеўкамі не ганяўся. Прыйшоў, выжаліўся, з бацькам чарку выпіў, а пасля і пераначаваў. А назаўтра, пасля працы ў горадзе, ізноў вяртаўся да жонкі.

Ну, і што, думаеш? Даравала яму? Як толькі адчула запах алкаголю, ізноў: „вон" і „вон". А што ён, з радасці напіўся?!

Ну, і пачаў ён жыць у нас. Удзень, пасля працы, ідзе да жонкі і дзяцей, каб што-колечы дапамагчы, а пасля да нас ішоў. Тут еў і спаў, хаця дзетак сваіх не цураўся.

Ну, дык і падала ж яна на развод. Развяліся, а мне быццам бы хтосьці нож у сэрца ўсадзіў. Там унукі — быццам бы сіроты. У нас сыну прыстанішча не зусім пэўнае — мы ж ужо старыя. Колькі нам таго жыцця засталося?! Ды і што будзе з сынам, бо я ўжо і сама заўважыла, што ён штораз больш п'е...

**Агрыпіна**

Агрыпіна! З твайго лісту вынікае, што толькі ты — добрая, гаспадарная, адданая сям'і. Нявестка, вядома, гэта зараза, якая напала на твайго мужа невядома адкуль, а цяпер вось невядома, як ад яе нахабнасці адчапіцца. Ну і праўда, хоча, каб муж сядзеў у хаце, еў яе яду, а не матчыну, ды каб яшчэ не піў. І вазьмі ж ты дагадзі такой!

О, у мамы, вядома, лепш. Для мамы сын заўсёды — дзіця. Накорміць, дасць выпіць, усё зразумее, пашкадуе. А цяпер вось развод! Скажы ты, якая нервовая!

Ну, што ж, кожны выбірае, дзе яму лепш. Калі твой сын выбраў тое, што выбраў, дык ты яму ў гэтым добранька дапамагла. А цяпер наракаеш на неспакойную старасць. Кожнаму — сваё.

**Сэрцайка**